# НАША НІВА
ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

Заснаваная ў 1906. Аднаўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі. №9 (166) 28 ЛЮТАГА 2000 г.


## Расейскія зьверствы ў Чачэніі



*Гэты здымак зьняты патайной камэрай у фільтрацыйным лягеры ў Чарнакозаве. У сьвеце баяцца, што ў гэткіх лягерах вядуць плянамернае вынішчэньне чачэнскага насельніцтва.*

Старонка 5.

## Цудатворац з Хмелева

У вёсцы Хмелева, што пад Жабінкай, будзе закладзены манастыр-пустынь. Малады манах айцец Серафім, які сьвятаром у гэтай вёсцы, мае быццам бы незвычайны дар вылечваць людзей і выганяць зь іх д'ябла. Да яго едуць і зь Берасьця, і з-за Берасьця, і нават з-за мяжы, таму мясцовыя людзі і папрасілі дазволу адчыніць тут невялікі кляштар, кіраваць якім будзе айцец Серафім, і дазвол ім далі, піша БелаПАН.

## Рээкспарт беларускай электрыкі

З пачатку лета 2000 году Беларусь будзе, магчыма, экспартаваць у Польшчу электрычнасьць, выробленую на Бярозаўскай ДРЭС. Прынцыповае рашэньне наконт гэтага ўрад і Нацбанк прынялі. Неўзабаве ў Менску мусіць адбыцца сустрэча прадстаўнікоў энэргетычных кампаніяў Расеі, Польшчы й Нямеччыны на гэтую тэму, піша БелаПАН. Рэч у тым, што гэта фактычна будзе ня экспарт, а рээкспарт электраэнэргіі, бо Беларусь сама на свае патрэбы раней купляла электрычнасьць у Літве, а цяпер найбольш — у Расеі.

Б.Т.

## На сьмерць Пласкавіцкага

Магілёўскі гісторык Ігар Марзалюк прывёз з маскоўскіх бібліятэк невядомыя дагэтуль паэтычныя радкі, што належаць пяру Сімяона Полацкага, — невядомую вэрсію эпітафіі «На сьмерць яснавяльможнага шляхціца Георгія Пласкавіцкага, забітага Масквой». Сімяон Полацкі напісаў яе на старабеларускай мове. Гэтая ж эпітафія ўжо была вядомая з 60-х гадоў у польскамоўным варыянце. Цяпер высьветлілася, што ёсьць і арыгінальны старабеларускі тэкст. Тэксты абсалютна самастойныя, іх аб'ядноўвае толькі тэма. Эпітафію, на думку сп.Марзалюка, сваякі забітага пана так і замаўлялі: у дзьвюх розных вэрсіях.

Сымон Глазштэйн, Магілёў

## Усе прадаюць, а ня ўсіх саджаюць

У Мсьціславе па шэсьць гадоў атрымалі былы старшыня калгасу «Камуніст» Анатоль Гоцманаў і яго жонка Надзея. Яны — апошнія ахвяры той вядомай гісторыі, калі Лукашэнка вызваліў ад пасады старшыню райвыканкаму Сяргея Дземідзенку, аблвыканкаму — Кулічкова і галоўнага сельгасначальніка вобласьці Адашкевіча. Свае тэрміны атрымалі Дземідзенка і колішні старшыня райсавету Аляксандар Пятроўскі. Цяпер дайшлі й да калгасьнікаў. А прычына ўсіх страсьцей — у продажу мяса ў Расею. Гоцманавы быццам бы прадалі за мяжу 15 т.

С.Г.





Фота Анатоля Клешчука

*Падзьвіжнік Ермаловіч штодня езьдзіў з Маладэчна працаваць у менскія бібліятэкі. «Аматар» Ермаловіч адзін супрацьстаяў цэламу акадэмічнаму Інстытуту гісторыі, зацята баронячы праўду летапісаў і здаровую лёгіку дасьледаваньня. Ён і цяпер рыхтуе новую кнігу. Грошы на яе дае Таварыства сьляпых. Сьляпыя даюць грошы на кнігу для відушчых... Гутарка Ўладзімера Крукоўскага зь Міколам Ермаловічам — на старонках 6—7.*

## НОВЫЯ ІМЁНЫ Ў АПАЗЫЦЫІ

### Беларуская інтэлігенцыя заклікае да Ўсебеларускага зьезду

Днямі абвешчаная новая ініцыятыва групы беларускіх дзеячоў культуры супраць інкарпарацыі нашай краіны ў склад Расеі. У звароце да грамадзтва, у прыватнасьці, гаворыцца:

«Мы апынуліся на гістарычнай мяжы, за якой — нацыянальная нябытнасьць. Тыя, хто імкнецца зьліквідаваць нашу дзяржаўнасьць, пад хісткай заслонай хлусьні і фальсыфікацыяў рыхтуюць здачу суверэнітэту краіны. Гэтыя згубны здрадніцкі працэс неабходна рашуча спыніць. Дзеля гэтага мы зьвяртаемся да ўсіх патрыётаў Бацькаўшчыны з прапановай правесьці ў 2000 годзе Ўсебеларускі зьезд. Мэта яго — заявіць усяму сьвету, што дзяржаўнасьць і дабрабыт Беларусі зьвязаюцца для нас найвышэйшымі вартасьцямі.

Мы заклікаем неадкладна стварыць аргкамітэт Усебеларускага зьезду. Калі трэба бараніць незалежнасьць роднай дзяржавы, павінны быць адсунуты ўбок палітычныя рознагалосьсі, забыты асабістыя крыўды».

«Заўважце, пад зваротам няма подпісаў ніводнага апазыцыйнага лідэра», — падкрэсьліваюць ініцыятары. Затое стаяць імёны Радзіма Гарэцкага і Алеся Разанава, Віктара Скарабагатава і Ўладзімера Арлова. Разам зь імі ўпершыню — подпісы актрысы Стэфаніі Станюты ды мастака Арлена Кашкурэвіча. Гэтак год па годзе да апазыцыі па чарзе далучаліся Быкаў і Барадулін, Дашук і Брыль... «У зьезду адзіная мэта — пацьвердзіць незалежнасьць Беларусі. Дэлегаты на яго мусяць выбірацца паводле тых жа прынцыпаў, што і на зьезд 1917 году», — дэкляруе адзін з ініцыятараў звароту, журналіст Аляксандар Старыкевіч. І спадзяецца, што «ў час зьезду ў Беларусь зможа прыехаць Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла».

Прыгожа напісаны зварот нагадвае многія ранейшыя падобныя ініцыятывы, якія пашумелі ды аблегліся ў ціхай затоцы. Тады таксама падпісвала інтэлігенцыя, а пасьля яе аўтарытэтам карысталіся ня надта прынцыповыя функцыянэры-апазыцыянэры, каб стварыць пад сябе чарговыя малакарысныя канторкі. Ініцыятары даюць зразумець, што ідэя Ўсебеларускага зьезду адрозьніваецца ад папярэдніх "кангрэсаў супраць дыктатуры" тым, што на ягонай аснове можа паўстаць рэальны орган народнага прадстаўніцтва Беларусі, больш адэкватны структуры сёньняшняга беларускага незалежнага грамадзтва, чым цяперашні Вярхоўны Савет.

Сказаная ў самых гарачых словах праўда, на жаль, яшчэ ня сіла. Зваротам ня будзе відаць канца, пакуль кожнага разу навіна акцыі будзе адно ў імёнах і шыльдах, а ня ў новых палітычных тэхналёгіях, безь якіх, з аднымі толькі рамантычнымі заклікамі, бараніць незалежнасьць у сучасным сьвеце немагчыма.

Сяргей Паўлоўскі

## Чалавек дабіўся праўды

***Прадпрымальнік зь Пінску, актывіст БНФ Мікалай Буры пры канцы лістапада быў арыштаваны на кірмашы.***

У яго сканфіскавалі ўсе грошы ды яшчэ далі дзьве ночы адміністратыўнага арышту. Пасьля трох месяцаў змаганьня за праўду на гэтым тыдні ён нарэшце дабіўся, што гарадзкі суд прызнаў яго невінаватым.

60-гадовага прадпрымальніка Мікалая Бурага арыштавалі на цэнтральным рынку за тое, што ён нібыта незаконна набыў 1 даляр ЗША і паклаў яго ў кішэню курткі. Калі пасьля абшукваньня даляра ў вонкавай кішэні не знайшлі, супрацоўнікі падатквай міліцыі Петрашэвіч і Шчука абвінавацілі спадара Бурага ў тым, што валюту ён выкінуў па дарозе ў пастарунак, а потым увогуле зьмянілі абвінавачваньні і заявілі, што затрыманы купіў не адзін, а ўжо 20 даляраў. Але і 20-даляравай купюры ў прадпрымальніка не знайшлі. Са словаў міліцыянтаў, дык ён яе таксама выкінуў. У выніку, нягледзячы на шматлікія парушэньні супрацоўнікамі міліцыі існуючай працэдуры затрыманьня, нядбайнае вядзеньне пратаколу і іншае, судзьдзя Пінскага суду Лешчанка прысудзіў канфіскаваць у сп.Бурага ўсе грошы, што былі пры ім, а гэта ў пераліку больш за 100 даляраў, ды пасадзіць яго на двое сутак у СІЗА. Але абласны суд, куды пацярпелы зьвярнуўся са скаргай, прызнаў, што справа вялася са шматлікімі парушэньнямі. «Пратакол судовага паседжаньня напісаны вельмі неахайна, пратакол агляду Бурага — нечытэльны» — гэта толькі некаторыя з заўваг абласнога суду. Рашэньне Пінскага суду было прызнанае несапраўдным, і зь Берасьця справа была адпраўленая назад у Пінск на перагляд да іншага судзьдзі. У выніку ўчора судзьдзя Татарэвіч пастанавіў, што грошы ў пацярпелага былі канфіскаваныя незаконна — іх вернуць. На жаль, пра двое сутак, ні за што праведзеных у камэры, ніхто не ўзгадаў. Пра абсэцэньванне грошай — таксама.

Дарэчы, сп.Буры добра знаёмы зь беларускай Фэмідай. Летась яго двойчы затрымлівалі на кірмашы за тое, што перад падпольнымі прэзыдэнцкімі выбарамі ён зьбіраў подпісы за Пазьняка.

Паводле афіцыйнай інфармацыі з пракуратуры, летась значна павялічылася колькасьць супрацьпраўных дзеяньняў міліцыянтаў. Колькасьць наўмысна скрытых супрацоўнікамі міліцыі злачынстваў падвысілася амаль у два разы, да дысцыплінарнай адказнасьці прыцягнутыя 40 міліцыянтаў, каля 120 справаў вяліся супрацоўнікамі ГУУС з парушэньнямі правілаў.

Аляксей Дзікавіцкі

## «НАРОДНЫ АЛЬБОМ» У МЕНСКУ

***У суботу 26 лютага ў канцэртнай залі «Менск» ігралі «Народны Альбом». У Менску імпрэзы чакалі два гады — ад першай ТЮГаўскай прэзэнтацыі ў 1997 годзе.***

Narodny Albom

Заля ведала ўсе словы, а «Надзеньку» дык сьпявала хорам разам з *incognito*, чыю ролю выконваў Вольскі з натуральным «чымаданам пустым у руках». На думку аўтара тэкстаў Міхала Анемпадыстава, гэты момант стаўся кульмінацыяй канцэрту. «Мы цэлыя два гады не выступалі ў Беларусі, — кажа Міхал Анемпадыстаў. — За гэты час праект адшліфаваўся і загартаваўся, мы прывезьлі якасна іншы прадукт. «Народны Альбом» — гэта найперш відовішча».

Заля зьдзівіла іншым — гледачы танчылі нават седзячы. Пакуль «Альбом» бадзяўся «ў Эўропе», народ вывучыў песьні зь яго на памяць.Ужо неўзабаве па запісе «Альбому» ўвосені 1996 году ў апусьцелай студыі зачыненага «Радыё 101,2» на імя музыкаў і радыё пайшлі лісты з просьбамі пра ноты да «Альбому». Публіка апошняй «альбомаўскай» імпрэзы зьдзівіла яшчэ пярэстасьцю свайго ўзроставага складу. Найперш — вялікай колькасьцю дзяцей.

«Народны Альбом» — гэта сьцёб ня толькі з савецкіх ці польскіх штампаў, але й зь беларускіх нацыянальных мітаў пра Заходнюю Беларусь. Але захапляе «Альбом» ня столькі сьцёбам, колькі душэўнасьцю, музычным апавяданьнем пра тое, як «пад прыгнётам панскім дзетак гадавалі».

Сантымэнт да эпохі 20—30-х гадоў жыве ці не ва ўсёй Эўропе. Бо ж гэта быў кароткі і радасны перадых між жахамі дзьвюх войнаў. А мы яго ўспрымаем і як пэрыяд, калі жылі яшчэ суайчыньнікі, якія ня ведалі савецкае ўлады. «Народны альбом» — цалкам у стылістыцы часу, у які ён нас пераносіць, гэта крыху м'юзікл, крыху кабарэ, часам апэрэта. Усё разам — фэерыя. Сапраўды народная.

Вінцэсь Кутрыпка

лісты ў рэдакцыю

## Падтрымаем Веру Церлюкевіч

*Крыху са спазьненьнем прачыталі №6 ад 7 лютага, дзе гутарка зь Верай Церлюкевіч, якая падала позву ў суд на Зімоўскага. Уражвае, што жанчына здольная аддаць усю сваю пэнсію, ды яшчэ пазычыць дзеля абароны свайго гонару й гонару іншых людзей. А ці многа знойдзецца сярод нас, маладзейшых і здаравейшых за яе, ды са значна большымі заробкамі тых, хто гэтак жа «выкіне проста так» хоць бы чвэрць той сумы?*

*Зьвяртаемся да чытачоў «Нашай Нівы» і ўсіх добрых людзей: кампэнсуем разам страты спн.Веры ды дапаможам ёй, каб яна магла давесьці працэс да канца. Яна заслугоўвае нашай дапамогі. Дзеля гэтага дасылаем на адрас рэдакцыі 500 новых рублёў. Хай грошай будзе сабрана больш за тыя 15 мільёнаў, якія патраціла Вера, але менш за 3 мільярды, якія яна патрабуе праз суд. Гэта ўжо справа сумленьня сп.Зімоўскага.*

**Марына і Аляксандар, Менск**

## ТБМ памыляецца

*У 1992 г. Камісіяй па культуры БНФ «Адраджэньне» была распрацаваная канцэпцыя адраджэньня гістарычнай гарадзкой тапанімікі Менску і наданьня новых найменьняў вуліцам, плошчам і іншым аб'ектам гарадзкога асяродзьдзя. Гэтую канцэпцыю падтрымала Тапанімічная камісія Беларускага краязнаўчага таварыства. Тая канцэпцыя зводзілася да наступнага:*

*1) Поўнае аднаўленьне гістарычных назваў дакаляніяльнага пэрыяду, найперш у межах Верхняга гораду і гарадзкога валу (гэта рэальныя сьведкі незалежнасьці Беларусі — ВКЛ і самакіраваньня Менску). Гістарычны цэнтар гораду — запаведнік архітэктуры, гістарычны і тапанімічны.*

*2) Захаваньне назваў каляніяльнага акрэсу, узьнікненьне якіх адбылося натуральным чынам на мясцовай глебе і традыцыях, ды якія цалкам адпавядаюць беларускім моўным асаблівасьцям, і якія не абцяжараныя элемэнтамі каляніяльнай, імпэрскай ідэалёгіі.*

*3) Аднаўленьне мясцовай мікратапанімікі на абшарах былых прадмесьцяў і сучасных новых раёнаў гораду (напр. Ляхаўка, Цівалі, Каменная Горка і г.д.)*

*4) Запаўненьне тапанімічных пустак і перайменаваньне назваў каляніяльнага акрэсу нацыянальным гістарычным і культурным матэрыялам.*

*У гэты блёк траплялі імёны выдатных дзеячоў гісторыі і культуры Беларусі ад Рагвалода, Усяслава Чарадзея ды Эўфрасіньні Полацкай да Вітаўта Вялікага, Льва Сапегі, Радзівілаў, Ф.Багушэвіча ды М.Багдановіча.*

*Імя Ф.Багушэвіча прапанавалі надаць вуліцы Чырвонаармейскай (каляніяльная назва Скобелеўская). Такі выбар быў не выпадковы: вуліца прылягае да гістарычнага цэнтру, на ёй разьмешчаны Нацыянальная Бібліятэка і гістфак БДУ. Канцэпцыю перадалі ў Менгарвыканкам, але там жа і пахавалі. Хоць прапанова слушная.*

*У сувязі з гэтым вялікае зьдзіўленьне прапанова ТБМ аб наданьні імя Ф.Багушэвіча вул.Інтэрнацыянальнай. Гэтая вуліца мае гістарычныя назвы: у адзін бок ад Дамініканскай (Энгельса) — Панцырная, або Вялікая Зборавая, у другі бок — Валоцкая, або Валокі Полацкія. Вуліца ў гістарычным цэнтры гораду, і назвы яе ўяўляюць вялікую гістарычную і культурную каштоўнасьць. Прапанова ж ТБМ неабдуманая і небясьпечная.*

*Гэты ж ліст я дасылаю сп. У.Ярмошыну.*

**М.Купава, старшыня Нацыянальна-культурнай камісіі Партыі БНФ**

## Прысьвячаецца Віктару Шніпу

*Адзін сабака ўстаў раніцай, глянуў у люстэрка, а на яго глядзіць адтуль Граждан. Пайшоў тады сабака ў ЗАГС і зьмяніў сваё прозьвішча на Саграждан.*

**В.В., Менск**




**15 сакавіка — Марш Свабоды, 25 сакавіка — Дзень Волі, 2 красавіка — Дзень Пратэсту, 26 красавіка — Чарнобыльскі Шлях, 1 траўня — Дзень Салідарнасьці. «Наша Ніва» будзе першай пісаць пра ўсе гэтыя падзеі.**

# Барацьба зь вясною

З 1 сакавіка газэта падаражэе да 100 рублёў за нумар. Адпаведна падаражэе й падпіска — на палову. Цана газэты падвышаецца не таму, што мы ў рэдакцыі падвысілі сабе заробкі. Прычына іншая. Для ўсіх незалежных выданьняў цана распаўсюджаньня з 1 студзеня ўзрасла ўжо на 400—600%. Вядома, і інфляцыя за гэты час склала 28%, але ж не 600! Чаму так робіцца, не сакрэт. Улады вельмі баяцца Вясны-2000, і таму хочуць адрэзаць людзей ад інфармацыі, разумеючы, што калі людзі ня будуць ведаць, куды ісьці, дык і ня прыйдуць. Газэты ў нас кволыя, але іншыя парасткі грамадзянскай супольнасьці яшчэ слабейшыя.

Але ўлады пазнавата схамянуліся душыць і склалі новы падпісны каталёг толькі ў лютым, таму сёньня й заўтра на красавік-чэрвень можна яшчэ падпісацца па старых коштах, фактычна, купіўшы газэты за другі квартал амаль напалову таньней. Мы раім аформіць падпіскі на другі квартал, да канца паўгодзьдзя, за гэтыя два дні. Гэта безумоўна выгодна для Вас.

Падпіска па старых коштах каштуе:

для менчукоў на шапік ці краму «Белсаюздруку» — вельмі зручна, бо танна і можна атрымліваць газэту ўжо ў панядзелак — 708 руб. (на кожны месяц — 236 руб.). Калі ж набываць газэту ў тым самым шапіку і плаціць штотыдня, дык гэта Вам абыдзецца ў 1300 руб. (Напалову даражэй!)

звычайная на пошце ці ў «Белсаюздруку» 768 руб. (на месяц — 256 руб.).

Дык падпісвайцеся! Падпісны індэкс 63125. Падпіску на «НН» прымаюць на любой пошце, у любым шапіку «Белсаюздруку».

**Рэдакцыя**

## Зімовая атава

Яшчэ ня скончылася зіма, а Пінскі гарвыканкам ужо давёў усім прадпрыемствам і арганізацыям гораду, незалежна ад формы ўласнасьці, заданьне па нарыхтоўцы сена. Нарыхтоўку трэба скончыць да 1 кастрычніка, прычым палову сена трэба накасіць ужо да 1 чэрвеня. Так тармасяцца, бо на час стойлавага пэрыяду дзеля нармальнага ўтрыманьня летась у сярэднім было назапашана толькі 14 цэнтнэраў корму замест 22 патрэбных.

На тое, што такія дзеяньні супрацьзаконныя і абсурдныя, вэртыкаль не зьвяртае ўвагі. Але ніводнае прадпрыемства не выступіла супраць прымусу — з уладамі лепш не сварыцца. А як ужо там тыя гарадзкія працуюць, паказала правальная леташняя касавіца. Хто ж напрацуе «на дзяздьку»?..

Сёлетняя выканкамаўская пастанова дае прадпрыемствам пэўную свабоду дзеяньняў. Цяпер фірмы, якія ня хочуць шмат касіць, могуць, па ўзгадненьні з падшэфнымі гаспадаркамі, набываць сена на палову з калгасамі альбо рамантаваць для іх сельгастэхніку.

Сярод іншых захадаў улады па падвышэньні колькасьці кармоў — забарона іх вывазу за межы раёну. Адпаведны загад райвыканкаму падпісаны 7 лютага.

**Аляксей Дзікавіцкі, Пінск**

## Ядахімікаты — на склад!

Гарадзенскія ўлады вырашылі змагацца з крадзяжом ядахімікатаў. Іх зараз ня будуць трымаць у калгасах, як раней, а на агульных складах з добрай аховай, адкуль калгасы змогуць атрымліваць іх па частках.

Ядахімікаты даволі дорага каштуюць, таму іхны крадзеж дае добры прыбытак. Раней на Гарадзеншчыне была схопленая вялікая хеўра, якая перапраўляла ў Польшчу кантрабандай крадзеныя калгасныя ядахімікаты. У гешэфце ўдзельнічалі мытнікі і памежнікі з нашага і польскага бакоў.

**С.М., Горадня**

## Безь яды ні туды і ні сюды

У Смаргоні на тых прадпрыемствах, дзе займаюцца перапрацоўкай сельскагаспадарчай прадукцыі, становішча катастрафічнае. Празь недахоп малака на заводзе сухога абястлушчанага малака аб'ёмы выпуску прадукцыі зьнізіліся больш як на 20%. Менш выпускаюць цяпер і камбікармоў, і аўсяных круп.

**М.В., Астравец**

пазытывы

# КРУЦЕЛЬСКІЯ ГРОШЫ

Касірка ўзяла банкноту ды пачала адлічваць рэшту. Пералічыўшы паперкі, яна раптам спахапілася: сума ў руках была ці ня ў дзесяць разоў большая за тую, што насамрэч трэ было аддаць. Кабета даслала колькі красамоўных эпітэтаў на адрас «дэномінатараў» ды пералічыла рэшту наноў.

Як выявілася, зусім не абавязкова разумець прынцып дзеяньня іржавай фінансавай машыны Беларусі, каб разжыцца за кошт дэнамінацыі. Дастаткова толькі прыгледзецца да саміх рублёў.

З «новых» грошай спраўна прыбралі Пагоню ды тры залішнія нулі. Гэтага, відаць, падалося замала, і мастакі намалявалі яшчэ адну паперку з выявай Нацыянальнае бібліятэкі вартасьцю 10 рублёў ды крыху зьмянілі колеры банкнотаў. Мо зьмянілі, а мо й пераблыталі. Так ці йначай, але колер «берасьцейскай» пяцідзесяцірублёўкі надта нагадвае белсаўпрофаўскія паўмільёны, а сотня з балетам для няпільнага вока выглядае акурат як стары мільён. Вось і робяцца беларусы (часьцей несьвядома) дробнымі махлярамі, калі расплочваюцца адной банкнотай тады, як патрэбны дзясятак такіх самых паперак. Што вы думаеце — такія самыя беларусы бяруць гэтыя грошы, ня гледзячы, ды яшчэ і рэшту добрую даюць.

Дэнамінацыя прывучыла народ несьвядома падманваць. Мы спрабуем лічыць «па-новаму», хаця дэнамінаваныя банкноты ўжо амаль два месяцы застаюцца маленькай кропляй у моры папяровых нулёў. Загадкавай дзесяцірублёўкі ўвогуле амаль ніхто ня бачыў.

Некаторыя вяртаюцца да старой сыстэмы падліку «на мільёны», бо так больш звыкла, а значыцца, зручней. Але большасьць кажа «пяць», а дае пяць тысячаў, бярэ тысячу, а думае «адзін». Здаецца, дэнамінацыю можна было праводзіць і без выдаткаў на друк новых грошай — народ, як вынікае, можа ўявіць сабе што заўгодна і ня бачыць таго, чаго ня трэба. А што, калі дэнамінацыя — гэта толькі пачатак? Што, калі чарговы дэкрэт загадае лічыць інфляцыю зьніжанай, скажам, у сто разоў, а заробкі ў сто разоў падвышанымі? Ці, як у Оруэла, нам скажуць: «Вайна ёсьць мірам. Свабода ёсьць рабствам. Няведаньне ёсьць сілай»?

**Алесь Кудрыцкі**

## Ён выжыў, каб сьведчыць

***21 лютага ў слонімскай бальніцы памёр 72-гадовы Васіль Струпавец***



У 1997-м годзе «Наша Ніва» неаднаразова пісала пра гэтага чалавека й ягоны лёс. У 1943 годзе група савецкіх партызанаў расстраляла ў вёсцы Якімавічы Слонімскага раёну ягоную сям'ю: бацьку, маці, двух братоў і маленькую сястру. Сам Васіль Струпавец быў цяжка паранены, але выжыў, каб сьведчыць пра тое ды іншыя злачынствы (у вёсцы й навакольных хутарох савецкія партызаны закатавалі амаль 50 мірных жыхароў, пераважна жанчын, дзяцей і старых). Аднак ні пры савецкай уладзе, ні пры сёньняшнім рэжыме Струпавец так і не дамогся суду над злачынцамі (а ён менавіта хацеў суду, а не самасуду!), многія зь якіх засталіся пасьля вайны жыць на Слонімшчыне. Наадварот, у 1997 г. улады наладзілі праверку праўдзівасьці фактаў, прыведзеных у публікацыі «НН» (за якую газэта атрымала папярэджаньне), якую праводзілі супрацоўнікі дзяржбясьпекі. Факты пацьвердзіліся, але на гэтым справа была закрытая...

Струпавец памёр у той час, калі ў Латвіі зноў загучала справа савецкага партызанскага камандзіра Васіля Кананава, нядаўна засуджанага на 6 гадоў турмы за расстрэл мірных жыхароў. За савецкага злачынцу заступіўся галоўны чэкіст расейска-беларускага саюзу...

Апошняй воляй Васіля Струпаўца было пахаваць яго на вясковых могілках у Якімавічах, каля агульнай магілы замардаванай ягонай сям'і, ды пакрыць труну сьвятым бел-чырвона-белым сьцягам...

**Сяргей Ёрш**

# БЕЛАРУСКАЯ АЛІМПІЯДА па матэматыцы

На пачатку 1999 году, калі на зімовых вакацыях найбольш падрыхтаваныя старшаклясьнікі зьехаліся ў Магілёў на традыцыйную абласную алімпіяду, ім было прапанавана па заканчэньні паўдзельнічаць у яшчэ адной — беларускай матэматычнай алімпіядзе, на якой патрабавалася разьвязаць толькі адну задачу з запісам разьвязаньня на беларускай мове. І якасьць матэматычнага разьвязаньня, і якасьць выкарыстанай мовы ацэньваліся ў балах, па суме якіх і вызначаліся пераможцы. Патрэба ў такой алімпіядзе, на думку яе ініцыятараў, магілёўскага ТБМ і суполкі «Кола сяброў», была абумоўленая дыскрымінацыяй беларускай мовы і апартэідам беларускамоўных.

Журы дадатковай алімпіяды ў прызначаны дзень і час чакала добраахвотнікаў у вялікай зале ўнівэрсытэту і гадала, колькі прыйдзе. Хваляваньне было натуральным, бо і асноўная двухдзённая алімпіяда стаміла ўдзельнікаў, і дадому сьпяшаліся — дзень быў разьезны. Прыйшлі 27 школьнікаў. Пераважна з элітных установаў абласнога цэнтру. Натуральна, у паловы з мовай былі праблемы. Цікава, што добрая мова была ў тых навучэнцаў ліцэяў, гімназіяў, якія выраслі ў горадзе, дзе мовай карыстаюцца меней.

Перамог у алімпіядзе ня той, хто лепш ведаў матэматыку і добра ўмеў разьвязваць матэматычныя задачы, а той, хто спалучаў гэтае майстэрства з майстэрствам валоданьня мовай: Букарава Дзіяна, Рыгор Міхалап і Антось Кавальчук. Лепшае матэматычнае разьвязаньне было ў Юрася Грушэцкага, але нізкія балы за мову адкінулі яго ўрэшце толькі на шостае месца.

Слушнасьць ідэі магла выявіць толькі другая такая алімпіяда, бо першую не было з чым параўноўваць. І вось роўна праз год «алімпійцы» вобласьці былі зноў запрошаныя пазмагацца за пяць прызоў ТБМ. На гэты раз прэтэндэнтаў было ўжо сорак. Шырэй адгукнуліся раёны. Выявілася, што некаторыя настаўнікі матэматыкі ўжо чакалі такой алімпіяды і рыхтавалі «пад яе» сваіх вучняў. Асобныя вучні прыехалі адмыслова на гэтую алімпіяду. Такім чынам, ідэя беларускай алімпіяды прыжываецца, пра што сьведчылі і цёплыя словы настаўнікаў на адрас арганізатараў. Шэсьць удзельнікаў былі ўжо знаёмыя журы, яны прыйшлі паспаборнічаць другі раз.

Важным для нас было і тое, што настаўнікі станоўча ацэньваюць зьмест прапанаваных задач. Тут сапраўды ёсьць праблема. Арганізатары абласных і рэспубліканскіх алімпіяд за 40 гадоў перабралі традыцыйнае кола школьных задач і цяпер нібыта вымушаныя ўключаць задачы, тэматыка якіх усё далей адыходзіць ад школьнай праграмы. На разьвязваньні такіх задач адмыслова натрэніроўваюцца асобныя вучні, найчэрш прэтэндэнты на «алімпійскія» прызы з прэстыжных установаў (дзе перамогі на алімпіядах лічацца абавязковымі). І атрымліваецца, што перамагае на алімпіядзе не найразумнейшы (як гэта і павінна быць), а той, хто лепш намуштраваны на пэўнага характару задачах.

І настаўнікі адразу заўважылі і адзначылі, што задачы беларускай матэматычнай алімпіяды выгодна адрозьніваюцца: яны не выходзяць за межы школьнай праграмы, але патрабуюць здольнасьці варыятыўна карыстацца набытымі ведамі.

Але галоўнае выявілася пасьля таго, як працы вучняў былі правераныя. Якасьць узрасла — і матэматычных разважаньняў, і — асабліва! — мовы.

Лепшае матэматычнае разьвязаньне задачы і на гэты раз было знойдзена ў таленавітага хлопца Ю.Грушэцкага. Але цяпер і ягоная мова была адной зь лепшых: адна памылка на 50 словаў. На гэты раз ён не пакінуў нікому шанцу апярэдзіць сябе. І Грушэцкі не адзін такі. З шасьці паўторных удзельнікаў пяць палепшылі сваю мову.

Рыгор Міхалап пры відавочным росьце і ў матэматыцы, і ў мове зноў апынуўся на другім месцы. А трэцяе заняла Дзіяна Скачкова з Крычава. Нечакана, бо Дзіяна прыехала ў Магілёў на абласную алімпіяду па беларускай мове, па заканчэньні якой вырашыла паспрабаваць свае сілы і ў матэматычнай алімпіядзе.

Магілёўская арганізацыя ТБМ зьвярнулася да Міністэрства адукацыі з прапановай правесьці аналягічную алімпіяду для ўсёй краіны. І тады берасьцейцы (бо ў гэтым годзе рэспубліканская матэматычная алімпіяда праводзіцца ў Берасьці) атрымаюць унікальную магчымасьць удзельнічаць у І-й беларускай матэматычнай алімпіядзе Беларусі: удзел у ёй будзе вольнадаступным.

Натуральна, што існаваньне дзьвюх паралельных алімпіядаў — ня норма. Наша мара, каб новая алімпіяда як мага хутчэй зьнікла з-за адсутнасьці патрэбы ў ёй, бо беларускімі стануць алімпіяды дзяржаўныя. Але гэтага давядзецца пачакаць.

**Міхась Булавацкі, Магілёў**

# МЭЦЭНАТ ПАГРОМШЧЫКАЎ носіць вышываную кашулю


Фота IREX-ProMedia

У Сьветлагорску суд. Судзяць Анатоля Сілівончыка, чалавека, які ў свой час фінансаваў выраб копіі нацыянальнай сьвятыні Беларусі, крыжа Эўфрасіньні Полацкай, які набыў на ўласныя сродкі аўтобус, каб ягоныя землякі маглі без турботаў даяжджаць да райцэнтру.

За кратамі на лаве падсудных А.Сілівончык сядзіць адзін. Ні камандзіра атраду «беркутаўцаў» з Сургуту, ні намесьнікаў і камісараў не відаць і не чуваць. Сілівончыка судзяць за тое, што ён фінансаваў паездку «Беркута» ў Беларусь і прысутнічаў пры «захопе вёскі Мікалаеўкі», пра што мы пісалі летась у ліпені.

Судзяць мэцэната. Адразу ўзьнікае пытаньне: чаму на лаве няма дарослых камандзіраў атраду непаўнагадовых расейскіх пагромшчыкаў, тых, хто непасрэдна аддаваў загады падлеткам кідаць людзей тварамі ў зямлю, заганяць пад стол, зьбіваць, вязаць, страляць халастымі набоямі з баявой зброі, раскідваць выбуховыя пакеты? Мо таму, што тыя — паўнавартасныя грамадзяне Расеі, а Сілівончык — свой, беларус? Чаму няма на гэтай лаве і тых, хто даваў дазвол на правядзеньне «вучэньняў», хто прапусьціў праз мяжу на беларускую зямлю ўзброены атрад?

Адзін з артыкулаў крымінальнага кодэксу, па якім судзяць Сілівончыка, — пазбаўленьне грамадзянаў волі з прычыненьнем ім фізычных пакутаў. А таксама — злоснае хуліганства і супраціў работнікам міліцыі пры выкананьні апошнімі службовых абавязкаў.

На сёньняшні дзень апытаныя 14 пацярпелых. Усяго трэба апытаць 19 пацярпелых і 52 сьведкі. У якасьці сьведкаў чакаецца прыезд асобаў з кіраўніцтва сургуцкага «Беркута» — удзельнікаў падзеяў у Мікалаеўцы. Выкліканы позвамі таксама кіраўнікі Сьветлагорскага райвыканкаму.

У суд прыйшло нямала лістоў з просьбамі аб апраўданьні Сілівончыка. У прыватнасьці, ёсьць такія лісты ад МГА «Крыж Сьвятой Эўфрасіньні Полацкай», дзе за прэзыдэнта А.Сілівончык, ад РПЦ, «Баявога братэрства», Саюзу франтавых сяброўак, грамадзкіх арганізацыяў Сургуту, дачкі маршала Жукава і іншых асобаў.

На судзе 21 лютага прысутнічаў консул Расеі У.Трутнеў.

Зьдзіўляе асьвятленьне працэсу расейскай тэлевізіяй. Вельмі ўжо іх рэпартажы нагадваюць БТ. Водгукі людзей на працэс і асобу падсуднага нэгатыўныя, калі паказваюць самога Сілівончыка, дык толькі ў час лаянкі са сьведкамі, судзьдзямі, пракурорамі.

Нельга не адзначыць, што паводзіны Сілівончыка пад час судовага працэсу не выклікаюць сымпатыяў ні ў нэўтральных назіральнікаў, ні ў заангажаваных журналістаў. Першыя параўноўваюць гэтыя паводзіны з манерамі расейскага ультранацыяналіста Жырыноўскага, а другія нават кажуць, што ў асобных эпізодах Жырыноўскі — проста анёл проці Сілівончыка. Гэты абзывае ўсіх беларусаў свалачамі, судзьдзяў авечкамі. Пагражае пацярпелым, што даюць паказаньні супраць яго, праспавай. Кажа, што толькі адзін ён тут сапраўдны беларус, бо носіць беларускую вышываную кашулю, а Лукашэнка такой ня носіць.

Суд толькі распачаўся і адкладзены да 28 лютага. Усе ўдзельнікі працэсу — сьветлагорцы. Старшынстве Надзея Раманава — старшыня сьветлагорскага суду, абвінаваўца — пракурор Сяргей Кулажанка, абаронца — сьветлагорская адвакатка Тамара Вінаградава. Спадзяемся, што прысуд будзе справядлівым.

Сумна толькі тое, што чалавек, які так шмат добрага зрабіў для Беларусі і для сваіх землякоў, прывёў да сябе на Радзіму расейскіх пагромшчыкаў з фашысцкай псыхалёгіяй ды мэтадамі дзеяньняў і гэтым самым, а таксама малапрыстойнымі паводзінамі пад час судовага працэсу сапсаваў сваё добрае імя ў вачах землякоў.

**Вадзім Болбас, Сьветлагорск**

# АСЬЦЯРОЖНА, БАНДЫТЫ!

**Эпізод першы.**

Ня так даўна на адным з рэчавых рынкаў Беларусі набывала жанчына штаны свайму сыну, хлопчыку 8 гадоў. Прымерылі штаны, усё нармальна, маці задаволеная, стала з прадаўшчыцай гандлявацца. Кірмаш ёсьць кірмаш. Праз некаторы час яны сышліся ў кошце і прадаўшчыцы былі перададзеныя грошы. Усё б добра, аднак падзеі сталі разьвівацца зусім па іншым сцэнары, чым чакалі ўдзельнікі зьдзелкі. Раптам як з-пад зямлі выскачыў мацачок, схапіў прадаўшчыцу за руку і давай яе заломваць, па ўсім было відаць, што рабіць ён гэта ўмее. Жанчыне 50 гадоў, у яе ад болю сьлёзы на вачах выступілі, яна і кажа: «Сынок, што ж ты робіш, ты ж мне руку зломіш!» Забраў мацачок грошы і адразу ж літаральна сарваў са шкаляра набытыя штаны. Жанчына-пакупніца не разумее нічога, думае — проста рабуюць. Шкаляр заплакаў, стаіць у майтках, калоціцца ад страху і ад холаду. Тут дастае мацачок нейкае пасьведчаньне і кажа: «Падаткавы інспэктар, вы зьдзейсьнілі незаконную валютную апэрацыю, тым самым парушылі Дэкрэт Прэзыдэнта». Усе нарэшце зразумелі, у чым справа, аказваецца, гэта не бандыт, а падаткавы інспэктар. Павялі ўдзельніц зьдзелкі ў падатковую інспэкцыю.

Жанчыне-прадаўшчыцы мацачок так выкруціў руку, што яна потым з тыдзень яе падняць не магла, у падаткавай інспэкцыі ёй «пайшлі насустрач» і выпісалі штраф каля 100 даляраў, а маглі б выпісаць даляраў на 800. Жанчыне-пакупніцы выпісалі штраф і канфіскавалі ўсе даляры, што ў яе з сабой былі, шкаляру давялося абысьціся без штаноў, ён стаў «галоўным» вінаватым незаконнай валютнай апэрацыі.

**Эпізод другі.**

Падыходзіць на рынку жанчына да сваёй знаёмай, тая гандлюе кашулямі, блузкамі і штанамі. Як гэта часта бывае, калі зьбіраюцца дзьве жанчыны, пачалася паміж імі размова пра жыцьцё, пра дзяцей і пра кошты. Адна і кажа: «Гэтая кашуля дарагая, 10 даляраў, гэта сёньня вельмі шмат». Толькі яна гэта сказала, як падскочылі да яе два мужыкі, схапілі за рукі і кажуць: «Вы зьдзейсьнілі незаконную валютную апэрацыю, хадземце з намі». Тая кажа: «Хто вы такія? Я нічога не рабіла, адпусьціце мяне, мне балюча!» Тыя гэта прынялі за супраціў, паднялі куртку, закруцілі над галавой і пацягнулі яе па зямлі. Жанчына крычыць: «Мне балюча! Адпусьціце мяне, я сама пайду!» Пакуль яны яе цягнулі, для «перакана́часьці» стукалі па галаве, калі яна падымалася на ногі, яны прафэсійна давалі падсечку. Пасьля таго, як яны волакам прыцягнулі яе ў аддзяленьне міліцыі і абшукалі, высьветлілася, што аніякіх фінансаў у жанчыны няма. Жанчына зразумела, што супрацоўнікі фінансавай міліцыі затрымалі яе нібыта за незаконную валютную апэрацыю і пачала задаваць пытаньні: «Чаму вы мяне зьбілі?» На наступны дзень жанчына зьвярнулася да судмэдэкспэрта дзеля таго, каб той засьведчыў пабоі, што і было зроблена. Судмэдэкспэрт засьведчыў: на руках і на целе жанчыны больш за 15 крывападцёкаў.

Была пададзена скарга ў пракуратуру і ў іншыя інстанцыі на дзеяньні супрацоўнікаў фінансавай міліцыі. Праз некаторы час быў атрыманы адказ, што дзеяньні супрацоўнікаў фінансавай міліцыі былі правамоцнымі!

**Эпізод трэці.**

Стаіць на рынку і гандлюе маладая прыгожая жанчына, падыходзіць да яе супрацоўнік аддзелу па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі (АБЭЗ) і пачынае правяраць дакумэнты (сэртыфікаты, пасьведчаньні, накладныя і г.д.), натуральна, знайшоў да чаго прычапіцца і складае акт.

Пасьля складаньня акту супрацоўнік АБЭЗ і кажа ёй: «Буду хадзіць кожны дзень, правяраць, калі не перасьпіш са мной!» У жанчыны сківіца адвісла, што рабіць? Яна падышла да суседняй палаткі, там гандлюе ўдава, ёй гадоў за сорак, і распавядае, маўляў, так і так. Тая раіць: «Калі ён такі сэксуальна закалпочаны, няхай да мяне падыдзе, я зь ім разьбяруся, а не — ідзі паскардзіся на яго». Пайшла яна да яго начальніка, той выслухаў, пасьмяяўся, гаворыць: «Я разьбяруся». Як ён разьбіраўся, невядома, але супрацоўнік гэты працягвае хадзіць па рынку, нібыта нічога і не было, і такія заявы робіць іншым маладым прадаўшчыцам!


Фота IREX-ProMedia

**Эпізод чацьверты.**

Адзін з супрацоўнікаў шматлікіх кантрольных ведамстваў вырашыў праверыць сваё фінансавае становішча. Прыходзіць ён на рынак і пачынае шукаць «ахвяру», лавіць прадаўцоў на далярах, ды і пасьведчаньне пры сабе мае. І вось нарэшце злавіў! «Ахвяра» разумее, што за гэта штраф вялізны, тым і карыстаецца супрацоўнік, ён кажа: «Ну што ж, зробім табе падарунак да Новага году, гані 20 даляраў і ўсё!» Аддаў прадавец яму 20 даляраў і стаіць «шчасьлівы», бо «падарунак» атрымаў, і ад каго!

Усе гэтыя эпізоды ўзятыя з жыцьця прадпрымальнікаў.

Так што яшчэ раз: «Асьцярожна, бандыты!»

**Сяргей Рукамойнікаў, Горадня**



Адзін з кадраў, зьнятых рэпарцёрам «Известий»

# СЬВЕТ ЖАХНУЎСЯ

Заслона сакрэтнасьці, якую Расея трымае над Чачэніяй, толькі трошкі расхінулася, і гэтага было дастаткова, каб сьвет жахнуўся. Кадры, зьнятыя «афіцыйна ўпаўнаважанымі» рэпарцёрамі «Известий», невядома якія сумленныя людзі здолелі перадаць на Захад — у Расеі ўсю інфармацыю працэджвае цэнзура. На кадрах відаць групу чачэнцаў у брацкай магіле. Целы зьнявечаныя, апаганеныя, больш за тое — каля 30 целаў зьвязаныя разам дротам. Найбольш верагодна, што іх перад сьмерцю катавалі. Расейскі ж прадстаўнік Ястржэмбскі заявіў, быццам бы гэта ўжо трупы зьвязалі, каб лягчэй было перавозіць.

Іншыя жахі выкрылі чачэнцы, якіх іхным сем'ям удалося выкупіць зь фільтрацыйнага лягеру ў Чарнакозаве. Зьдзекі і тартуры жудасныя, людзей гвалцяць, расстрэльваюць. Праваабаронцы патрабуюць доступу ў лягер, расейцы ўпарта не пускалі, гэта выклікала яшчэ большыя падазрэньні.

Асаблівае абурэньне сьвету выклікае тое, што Расея цынічна адмаўляецца прызнаваць нават саму праблему з правамі чалавека на Каўказе, хоць шок выклікае сам выгляд Грознага, гораду, які зруйнаваны мацней, чым Менск у 1944-м ці Дрэздэн у 1945-м, прычым войскамі «сваёй» жа краіны.

Міжнародная праваабарончая арганізацыя *Human Rights Watch* назьбірала ўжо пад 600 сьведчаньняў наўмысна жорсткага абыходжаньня з цывільнымі людзьмі і палоннымі чачэнцамі. Паводле словаў яе прадстаўніка, доказаў назьбіралася досыць, каб падаць у Міжнародны Гаагскі трыбунал па злачынствах супраць чалавецтва на шэраг расейскіх вышэйшых афіцэраў, у тым ліку на аднаго генэрала, імя якога не паведамляецца.

Скалыхнулася сусьветная, найперш эўрапейская, грамадзкая думка. Даніэль Кон-Бэндыт, Андрэ Глюксман, Ізабэль Аджані і яшчэ 200 францускіх інтэлектуалаў выступілі з гнеўнай адозвай да эўрапейскіх палітыкаў і народаў сьвету. «Уладзімір Пуцін працягвае справу Іосіфа Сталіна. Як патрыёт ён загадвае сьцерці Грозны зь зямлі, дазваляе дабіць яговых мірных жыхароў і расстраляць параненых чачэнскіх байцоў. Як гуманіст ён паліць вёскі. Як чалавек сучасных поглядаў ён забараняе дактарам прыяжджаць у Чачэнію. Як дэмакрат ён затыкае рот прэсе. Як адміністратар ён арганізуе фільтрацыйныя лягеры». У гадавіну дэпартацыі чачэнцаў парыская інтэлігенцыя сабралася на мітынг салідарнасьці на плошчы перад цэнтрам Пампіду. Такія самыя акцыі адбыліся па ўсёй Эўропе.

На такую хвалю салідарнасьці не маглі не адгукнуцца палітыкі. Вацлаў Гавэл у суботу заявіў, што ў Чачэніі ідзе вынішчэньне цэлай нацыі, а далёка не антытэрарыстычная апэрацыя. Біл Клінтан і Мадлен Олбрайт абвінавацілі расейскіх вайскоўцаў у жорсткасьцях і зьверствах і запатрабавалі ад Крамля расьсьледаваньня й допуску ў Чачэнію незалежных назіральнікаў. Цяпер амэрыканскі ўрад шукае спосабаў аказаньня ціску на Маскву з мэтай прымусіць яе адрачыся сваіх плянаў. Праваабаронцы і інтэлектуалы лічаць, што такімі мерамі маглі б стаць эканамічныя санкцыі супраць Расеі.

Першы эфэкт сусьветнага дыпляматычнага наступу ўжо ёсьць: учора расейскі ўрад нарэшце даў згоду на допуск у Чачэнію, Чарнакозава і іншыя фільтрацыйныя лягеры міжнародных назіральнікаў. Значыць, цэрбэры і зондэркаманды там атрымалі загад праяўляць стрыманасьць, каб Расею не злавілі за руку. Значыць, будуць уратаваныя жыцьці.

Але пацыфікацыя Чачэніі не спыняецца: учора працягваліся запеклыя баі вакол гораду Шатой. Абаронцы гораду (іх 2700, паводле расейскіх зьвестак) імкнуцца прарываць кальцо аблогі, каб атрымліваць прыпасы. Пакуль ім гэта раз-пораз удаецца. Расейскія гелікоптэры і самалёты за ўчора зрабілі болей за 120 баявых вылетаў. З абодвух бакоў у баях загінулі каля 30 чалавек.

Барыс Тумар

## Будзь лепшым



Брытанскае войска знайшло сабе спосаб падзарабіць. Яно стала гандляваць вайсковай адзежай. Пачалося з бэйсболак і кубкаў з армейскай сымболікай. Бачачы камэрцыйны посьпех, пайшлі далей. Распачалася рэклямная кампанія моднай калекцыі вайсковай амуніцыі. Галоўным слоганам для яе абралі простыя словы: «Будзь лепшым». Сёньня можна набыць нагавіцы, швэдры, майкі, шорты, гадзіньнікі і нават ровары. Аднак тое, што прадаецца, адрозьніваецца ад сапраўднага вайсковага рыштунку. Так, вопратка чорнага колеру, а не «камуфляж», а яе «неваеннасьць» выдае навешаная лэйба «Будзь лепшым». Да таго ж, унесеныя зьмены ў мадэлі вопраткі — улічаныя парады мадэльераў. Галоўным героем рэклямнай кампаніі павінен стаць чэмпіён краіны па боксе Джуліус Фрэнсіс.

## Паэт мяняе краіну



Салман Рушдзі, пэўна, зьменіць краіну свайго знаходжаньня. Да апошняга часу ён жыў у Англіі, і яму за час знаходжаньня ў краіне прыйшлося зьмяніць месца жыхарства каля 30 разоў. Цяпер Салман Рушдзі мяркуе пераехаць у Нью-Ёрк. За зборнік «Сатанінскія вершы» на Рушдзі палююць ужо больш за 11 гадоў. Ніякай гаворкі пра «амністыю» паэту быць ня можа. Бо, паводле законаў ісламу, зьняць «пракляцьце» можа толькі той, хто яго наклаў, а імам Хамэйні памёр у чэрвені 1989 году.

Аляксей Ганецкі

## Не баліць у Мішкі галава

У расейскай прэсе шырока пішуць пра тое, што гэтыя 10 гадоў пасьля распаду СССР людзі п'юць, як ніколі дагэтуль. Упершыню за ўсю гісторыю Расея ва ўжываньні нават афіцыйна вырабленага алькаголю выйшла на першае месца ў сьвеце — 16 літраў чыстага сьпірту на душу насельніцтва за год.

Б.К.

## Рускі мядзьведзь прачынаецца

Слухай, СНГ! У нас — праблемы. Рускі мядзьведзь прачынаецца. У тайзе Прыморскага краю паўстала пагроза раньняга прабуджаньня бурых мядзьведзяў, — паведаміў Інтэрфакс. У выніку могуць пайсьці па нашых еўразійскіх прасторах аграсары-шатуны. Не раўнуючы, тыя маджахеды-бандыты. Як паведаміў Інтэрфаксу дырэктар паляўнічае гаспадаркі «Тэрнейскае» Леанід Зарапін, гэтай зімою паляўнічыя ўжо забілі двух шатуноў, якія ідуць ды руйнуюць усё на сваім шляху. Днямі ў даліне ракі Пячорнай на паўночным захадзе Прымор'я быў заўважаны яшчэ адзін мядзьведзь-шатун. Са словаў паляўнічага, хутка многія бурыя мядзьведзі пачнуць пакідаць барлогі. Мінулая восень была бедная на кармы ня толькі для беларускага быдла, але й для сіхатэ-алінскай тайгі. Мядзьведзь сумуе цяпер па жалудах, брусьніцах ды кедравым арэху, якіх недаеў, бо нагулянага тлушчу не хапіла яму на ўсю зімоўку. Гэта і прымушае яго прачынацца да часу. Хоць і далекавата, але чуе галодны расейскі мядзьведзь слабое дыханьне галоднай беларускай худобы.

Б.К.

# БІТВА ЗА ІРАН

***Рэфарматарам на чале з братам прэзыдэнта Хатамі не стае толькі 5 мандатаў, каб атрымаць большасьць у новым іранскім парляманце. Гэтай большасьці яны, безумоўна, даб'юцца ў другім туры выбараў, на якім будуць аспрэчвацца 65 мандатаў. У першым туры прыхільнікі мадэрнізацыі краіны, менш фундамэнтальнай формы ісламу і эмансыпацыі кабет сабралі каля 55% галасоў.***





Мухамад Хатамі

Верасень мінулага году. Тэгеран. Мора студэнтаў — блізу 10 000 — сабраліся ў дзень стагодзьдзя з дня нараджэньня аятал Хамэйні, лідэра іранскай ісламскай рэвалюцыі 1979 году, каб паслухаць Мухамада Хатамі, цяперашняга прэзыдэнта краіны. Хатамі зрабіўся прэзыдэнтам два з паловай гады таму, паабяцаўшы наладзіць дачыненьні з Захадам ды абнавіць краіну. Студэнты прагнулі пераменаў і зьвязвалі з Хатамі свае спадзяваньні. Назіральніку зь іншага краю магло б здацца, што ці то гэта выступае ня той прэзыдэнт, якога так любіць моладзь, ці то дарадцы-сьпічрайтэры падсунулі прэзыдэнту ня тую прамову. Напады на «бесхрыбетных імітатараў Захаду» гучалі незразумела. Але чаму, калі Хатамі скончыў прамову ды сеў нага за нагу, студэнты пачалі ў захапленьні выгукваць ягонае імя, а студэнткі яшчэ вышэй узьнялі ягоныя партэты?

Такія ідэі, як дэмакратыя ды вяршэнства права, падаюцца банальнымі ў заходняй краіне, але ў Іране яны — выклік Ісламскай Рэспубліцы. Хатамі даводзіцца ўжывацца з рэлігійным судовым апаратам ды з аятолам Алі Хамэнэі, вярхоўным лідэрам краіны, улада якога мацнейшая за прэзыдэнцкую. Хатамі прыйшоў з таго ж асяродзьдзя, якое ён крытыкуе, і сам разумее, што ходзіць па лязе. Нездарма Мухамад-Алі Абтагі, дарадца іранскага прэзыдэнта, лічыць: «Чым менш ён скажа, тым лепш».

Хатамі прывяла да ўлады іранская моладзь, якая складае ў краіне, дзе кантроль за нараджальнасьцю — грэх і злачынства, большасьць (штогод на рынку працы зьяўляецца 800 тысяч новых пар рабочых рук, гэта пры тым, што насельніцтва краіны складае 65 мільёнаў чалавек, а ўзровень беспрацоўя — 17%). Яны жадаюць палітычнай рэформы і разам з тым пакуль даруюць свайму абраньніку пэўную мяккацеласьць.

Паплечнікаў Хатамі, то бок рэфармістаў, называюць «давом курдады» — у гонар даты пэрсыдзкага сонечнага календара, якая супала з днём, калі Хатамі выйграў прэзыдэнцкую гонку. Менавіта іх больш за ўсё праклінаюць «мухафазакаран» — кансэрватары, якія называюць сабе спадкаемцамі аяталы Хамэйні, што нават праз дзесяць гадоў пасьля сваёй сьмерці моцна трымае ўладу над сваім народам. «Давом курдады» няшмат — каля пяцідзесяцёх палітыкаў, журналістаў, рэлігійных дзеячоў ды інтэлектуалаў. Дзіўна, але гэтаму вузкаму колу рэфарматараў удалося выйграць выбары. Сярод іх асабліва калярытная асоба — аятала Махаджэрані, які выконваў функцыі міністра культуры ды ісламскага нагляду. Каб узважыць ягоны ўнёсак у рэфармісцкі рух, трэба наведаць адзін з газэтных шапікаў на вуліцы іранскага гораду. Да прызначэньня Махаджэрані на пасаду там прадавалі каля дзясятка газет, амаль выключна кансэрватыўных. Сёньня ў Іране агульны наклад прэсы складае 2 750 000 асобнікаў — у два разы болей, чым два гады таму, прычым наклады рэфармісцкіх выданьняў растуць, а кансэрватыўных — падаюць.

Аятала Махаджэрані заахвочвае і іншыя культурныя ініцыятывы, большасьць якіх раней была табу. Гэта ён дазволіў запісаць у Іране пяцьдзесят зь лішкам альбомаў поп-музыкі. Ягонае міністэрства пасьля чатырохгадовай забароны пусьціла на экраны стужку «Дзьве жанчыны», што паказвае жанчыну, якая дэградуе за ўмоваў традыцыйнай іранскай сям'і. Такой, дарэчы, сям'я Махаджэрані не зьяўляецца: ягоная дачка грае на піяніна, а жонка балатуецца ў парлямэнт. Наведнікі міністра ня чулі таго, што чулі ад любога палітыка-заходніка зь іншай мусульманскай краіны, напрыклад, Турцыі ці Эгіпту. Махаджэрані пачынаў з разваг накошт таго, што прагрэсіўная ісламская ідэалёгія настолькі ж важная для рэформаў, як і імпарт ідэяў з Захаду, а скончаў крытыкай «Сатанінскіх вершаў» Салмана Рушдзі. Ён, як і прэзыдэнт, прытрымліваўся думкі, што ісламская рэвалюцыя ўсё яшчэ трывае.

«Рэвалюцыі яшчэ толькі дваццаць гадоў, і патрэбны час, каб усё стала на свае месцы», — казаў ён. Такі погляд вельмі блізкі і зразумелы большасьці аднагодкаў рэвалюцыі. Яны хочуць, каб вернасьць ісламу не супярэчыла захаваньню асабістых свабодаў, каб гаспадарчы стан краіны менш залежаў ад экспарту нафты (85% валютнай выручкі), а болей — ад эфэктыўнай прамысловасьці, каб частка прадпрыемстваў была прыватызавана, але каб дзяржава захоўвала кантроль над эканомікай, каб жанчын вызвалілі настолькі, наколькі гэта палепшыць функцыянаваньне грамадзтва, але пакінулі ў паранджах, каб у краіне дапускалася палітычная барацьба, але «ў рамках законнасьці». Большасьць іранцаў вітала расправу над студэнтамі пасьля летніх дэманстрацыяў. Людзей эўрапейскага мысьленьня па-ранейшаму мала, іх па-ранейшаму цкуюць, і яны вымушаныя маўчаць.

Застаецца здагадвацца, наколькі думкі Хатамі і Махаджэрані супадаюць з гучна прамаўлянымі словамі. Калі супадаюць, дык Іран гарантавана стане пляцоўкай вялікага гістарычнага экспэрымэнту — пабудовы сучаснай, але рэлігійнай дзяржавы. Ягоны посьпех, росквіт краіны, стаў бы другім, пасьля Кітаю, доказам таго, што альтэрнатыва заходняму лібэралізму магчымая. Хоць невядома, наколькі яна гістарычна трывалая, але з кітайскага досьведу вядома, наколькі крывавая і непаважная да чалавечага жыцьця. Калі ж словы і думкі не супадаюць, значыць, галоўная бітва за Іран яшчэ наперадзе. І неўзабаве яна пачнецца.

Алесь Кудрыцкі

# КНІГІ, ЯКІЯ ВЫЙШЛІ З ПАДПОЛЬЛЯ




***У кніжных рэйтынгах XX стагодзьдзя сярод самых першых стаяць два творы Міколы Ермаловіча: «Па сьлядах аднаго міту» і «Старажытная Беларусь». Гэтыя кнігі літаральна «выйшлі з падпольля», бо ў савецкія часы перапісваліся ад рукі, на іх палявала КГБ, і тым, хто толькі чытаў іх, пагражала небясьпека. Падзьвіжнік Ермаловіч распавядаў пра свае вэрсіі гісторыі Беларусі, якія супярэчылі афіцыйным савецкім падручнікам. «Аматар» Ермаловіч адзін супрацьстаяў цэламу акадэмічнаму Інстытуту гісторыі, зацята бароначы праўду летапісаў і здаровую лёгіку дасьледаваньня. Зь першых старонак ягоных кніг высьвятлялася, што афіцыйная беларуская гісторыя хлусіць, а значыць, кожны сам мусіць разьбірацца ў падзеях старажытнасьці. Гэткім чынам Ермаловіч дэмакратызаваў гістарычную навуку, агаліў нэрвы гісторыі. Любы сьведамы беларус пасьля гэтага ўжо ня мог ня быць гісторыкам свае краіны. Сёньня ў «Нашай Ніве» — гутарка мастака Ўладзімера Крукоўскага з гісторыкам Міколам Ермаловічам.***


Фота Ўладзімера Крукоўскага

# ПА СЬЛЯДАХ ЕРМАЛОВІЧА

Уладзімер КРУКОЎСКІ

*Два тэксты адыгралі ў маім жыцьці вельмі важную, калі не вырашальную ролю. Тэкст дакладу Хрушчова на XX зьезьдзе КПСС і тэкст легендарнага гістарычнага дасьледаваньня Міколы Ермаловіча «Па сьлядах аднаго міту».*

*У 1956 годзе, калі на ўсю бальшавіцкую імпэрыю прагучалі словы праўды пра тое грамадзтва, у якім мы жылі, мне было 19, я быў студэнтам 3-га курсу БПІ, прачытаў да таго часу процьму розных кніжак, ведаў, што бацька і дзед, і яшчэ дзясятак сем'яў Крукоўскіх былі ў 30-я гады рэпрэсаваныя, і тым ня менш — як гром зь яснага неба. Ведаю, што тое самае адчувалі тысячы і тысячы маіх равесьнікаў, каго пазьней назавуць шасьцідзясятнікамі, дзецьмі хрушчоўскай «адлігі».*

*На пачатку 70-х я быў ужо зусім дарослы, жанаты, ужо быў выгнаны з БПІ, адслужыў 3 гады ў войску, пахаваў сына і маці, прачытаў яшчэ болей кніжак і скончыў іншы інстытут, калі мне ў рукі трапіў зашмальцаваны экзэмпляр дзіўнай працы Ермаловіча, якую дзеля канспірацыі называлі «Сто старонак». Гэта сапраўды былі сто старонак бясспрэчных доказаў таго, што мы, беларусы, зусім ня з «братняю Русьсю», што мы самастойная эўрапейская нацыя, што ніякія літоўцы ніколі нас не заваёўвалі, а ВКЛ — гэта абрэвіятура нашай старажытнай дзяржавы. Мы не «малодшы брат», не «сялянская нацыя», ня «ўскраіна Расеі» і г.д. Мы эўрапейцы ня толькі геаграфічна, але і гістарычна, культурна, навукова і вайскова, гаспадарча і дыпляматычна.*

*Я і мае сябры, мае калегі-аднадумцы, можам безь перабольшаньня сказаць: «Мы — дзеці Ермаловіча». Гэтае інтэрвію я хацеў так і назваць, але ўспомніў мноства іншых дзяцей: «Арбату», «удавы», «кукурузы», «Чарнобылю» і г.д.*

*«Па сьлядах Ермаловіча» будзе дакладней, бо я ж хачу прайсьці і правесьці чытача па тых шляхах, якімі ішоў спадар Мікола, вызваляючы нас ад комплексу нацыянальнай непаўнавартасьці.*

**«Ф.Энгельс адкінуў валюнтарысцкія тэорыі дваранска-буржуазнай гістарыяграфіі, паводле якіх Вялікае Княства Літоўскае ўтварылася шляхам заваяваньня літоўскімі князямі беларускіх і ўкраінскіх земляў. Ён паказаў, што гэта было мірнае далучэньне, адной з важных прычын якога была пагроза татарскага нашэсьця».**

*З артыкула: Яны думалі пра Беларусь (Да 150-годзьдзя з дня нараджэньня Энгельса), «Літаратура і мастацтва», 27 лістапада 1970*

**У.К.: Больш за тры дзесяцігодзьдзі Вашай кніжцы, а яна ўсё яшчэ цікавіць чытачоў, як дэтэктыўны раман, усё яшчэ ўзбуджае спрэчкі. Відаць, жыве яшчэ міт, па сьлядах якога Вы йшлі столькі гадоў?**

М.Е.: Кніжка мая пісалася 10 гадоў, я яе скончыў у 1968 годзе, а надрукавалася яна толькі ў 89-м. Праўда, удалося пару ўрыўкаў зь яе зьмясьціць у навуковых зборніках у 1969-м і 1972-м гадах. 21 год яна хадзіла па руках у машынапісных копіях, фотакопіях, потым на «Эры» друкавалі... У 60-я гады я ж яшчэ выдаваў рукапісны часопіс «Падсьнежнік». Пазьней, ужо ў 75—76 гадах, на падставе гэтых «Падсьнежнікаў» надрукаваў каля 50 нумароў «Гутаркі». І над «Старажытнай Беларусьсю» працаваў. Прапанаваў яе, помню, у «Полымя», Кавалёву. Вярнулі, спалохаліся, што ВКЛ было беларускай дзяржавай.

**У.К.: І што літоўцы нас не заваёўвалі, а расейцы не выратоўвалі...**

М.Е.: Так. Гэта ж была ідэалягічная бомба. «Старажытная Беларусь» праляжала ў сталі 4 гады. Толькі ў 1988-м здаў у Акадэмію на рэцэнзію. Ажно 4 рэцэнзіі было.

«Маладосьць» надрукавала, дзякуй Далідовічу. А перад гэтым я там жа зьмясьціў артыкул да 1125-годзьдзя Полацку. Бо калі пачаўся гвалт! Адам Залескі ў «Звяздзе» даў пагромную пугу пра скажэньне гісторыі Полацку Ермаловічам. Народ, ведаеце, не паказаў, барацьбу сялян з панамі і г.д. А Ігнаценка з унівэрсытэту папракаў: «Хоць аўтар прама ня кажа, што ВКЛ было беларускай дзяржавай, але падводзіць чытача да гэтай думкі». І гэта ж у 1987 годзе, перабудова ўжо ішла.

**У.К.: Вядома, можна ўзлавацца. Столькі дзесяцігодзьдзяў дурылі школьнікаў і студэнтаў, пабудавалі манумэнтальны марксіцка-ленінскі гмах на пяску і балоце, а тут правінцыйны літаратар сотняю падпольных машынапісных старонак усё развaліў.**

**Спадар Мікола, Вы нарадзіліся ў 1921 годзе, акрамя рэвалюцыі, перажылі ўсе эпохі і пэрыяды, рэжымы і праўленьні сучаснай беларускай гісторыі...**

М.Е.: Я ж яшчэ застаў беларусізацыю, вучыўся ў пачатковай школе па нармальных падручніках. Праўда, у 3-й клясе, гэта ўжо 30-ы год, прыйшоў з канікулаў — адкрывай, кажуць, сумку і выкідвай граматыку Лёсіка, чытанку Некрашэвіча і г.д. Настаўнік кажа, гэта ўсё нацдэмаўскае.

***«Невядома, чаму аўтары ўказальніка... нічога не гавораць аб прыезьдзе Леніна ў верасьні 1895 году ў Вільню. Нельга забываць, што ў той час Вільня была і цэнтрам беларускага грамадзка-культурнага жыцьця і рэвалюцыйнага руху... Больш таго, аўтары выключылі... зь ліку беларускіх Віленскую губэрню. Яны, відаць, лічаць яе поўнасьцю літоўскай і гэтым самым паўтараюць памылку Розы Люксэмбург, за што яе крытыкаваў Ленін (т. 24, стар. 146). Варта паглядзець на карту, каб упэўніцца, што значна большая частка былой Віленскай губэрні цяпер уваходзіць у склад БССР (раёны Астравецкі, Ашмянскі, Валожынскі, Вялейскі, Воранаўскі, Глыбоцкі, Іўеўскі, Лідзкі, Маладэчанскі, Мёрскі, Мядзельскі, Пастаўскі, Смаргонскі, Шаркоўшчынскі, Шчучынскі і часткі некаторых іншых раёнаў)».***

*З рэцэнзіі на кнігу «В.И.Ленин о Белоруссии»: Ленінскае бачаньне Беларусі, «Полымя», 1971, №4.*

**У.К.: Мы трохі адхіліліся, давайце вернемся на сьляды «Ста старонак», бо ў тыя часы (я маю на ўвазе 70-я гады) гэта была наша ідэалягічная зброя, наш маніфэст і наш катэхізіс. Прачытаўшы гэтыя старонкі, кожны з нас мог паказаць сымбалічную хвігу і літоўцам, і расейцам, і палякам.**

М.Е.: Ведаеце, 400 гадоў, з «Кронікі» Стрыйкоўскага пачынаючы, цягнулася гэтая нахабная фальсыфікацыя, гэты мітычны заваёў, і толькі адзін расейскі вучоны яшчэ царскіх часоў, Надзеждзін, засумняваўся. Нідзе ж, ні ў водным летапісу ніводнага слова пра заваёў беларускіх земляў няма. Міндоўг у летапісах «Литву воеваша», г.зн. сам сябе. Абсурд! Царызму трэба было апраўдваць свае «вызваленчыя» войны. Вызвалялі «единокровных и единоверных» беларусаў то ад язычнікаў-літоўцаў, то ад польскага каталіцызму. А ў летапісах — усё наадварот.

**У.К.: Але што ўсё ж такі паслужыла першым штуршком да гэтай Вашай працы? Вы неяк па тэлефоне мне сказалі, што быў выпадак...**

М.Е.: А, так. Быў, ведаеце. Мушу Вам расказаць спачатку трохі біяграфіі — інакш не зразумееце, што да чаго. Я зь сялянскай сям'і. Жылі на хутары пад Койданавам. Бацька, маці і нас чацьвёра: сястра і тры браты. 6 чалавек карміліся з 3-х гектараў ворнай зямлі. Бацьку ў 1937-м арыштавалі, загінуў у ГУЛАГу, конюхам у калгасе быў. Мяркую, з-за дзядзькі Кастуся, бацькавага брата. Ён працаваў настаўнікам і ў 20-х гадах, як ішла гэтая неразьбярыха, застаўся ў Польшчы. Сваяк за мяжой — значыць, уся сям'я пад падазрэньнем. Такі быў час. У 1937-м годзе выключылі мяне з 10-й клясы. Не, не за бацьку. Ішоў я са школы, гэта 6 км да хаты, і вучыў з кніжкі «Пісьмо беларускага народу вялікаму Сталіну», адрывак задалі. Спатыкнуўся, кніжка ўпала ў балота, запэцкалася. Я падняў, абцёр і далей іду, чытаю. Назаўтра выклікае дырэктар: «Ты как посмел письмо великому Сталину в грязь бросить? Чтоб ноги твоей здесь не было!»

**У.К.: А хто ж Вас «залажыў»?**

М.Е.: Свае пацаны, што ішлі разам. Тады гэта была, ведаеце, самая распаўсюджаная забава, гэтыя даносы. Мне потым падказалі, хто данёс. А дырэктар мусіў адрэагаваць, бо на самога данясуць. Але ў Менску быў добры знаёмы, настаўнік, дапамог мне здаць экстэрнам. Паступіў я на падрыхтоўчыя курсы, потым у пэдінстытут на літфак. Прыйшлося, дарэчы, усе экзамэны здаваць: і матэматыку, і фізыку, і хімію і г.д. Вучыўся зь Міколам Аўрамчыкам, Барысам Сачанком. Скончыў 3 курсы — вайна! Эвакуяваўся ў Мардовію, у мардоўскай вёсцы выкладаў расейскую літаратуру.

У 43-м годзе адклікалі ў Беларусь: я ж на ўліку быў, хоць на вайну ня бралі з-за вачэй. Зь дзяцінства быў «нізкі на вочы», як казалі ў нас. Ужо перад вайной меў мінус 17 дыёптрыяў. Беларускі ўрад месьціўся тады ў Маскве, накіравалі ў вызвалены Сураскі раён інспэктарам райана, школы аднаўляць. На ўвесь раён — дзьве ацалелыя вёскі, усё спаленае, зьнішчанае. Школы рабілі ў зямлянках, ДОТах. У 1944-м вярнуўся ў Койданава, у сваю школу, зь якой мяне выгналі, завучам. Выкладаў літаратуру і трохі гісторыю. Неяк замяняў настаўніцу гісторыі, раскрываю кніжку, рыхтуюся да тэмы: татара-мангольскае нашэсьце і заваёў Беларусі літоўцамі. Чытаю падручнік: па татарскім заваёве — усё падрабязна, з датамі, імёнамі, з геаграфіяй. А па літоўскім заваёве — літаральна пару радкоў. Як жа так? Можа, гэта школьны падручнік такі, да таго ж расейскі, што яны там ведаюць пра Беларусь?

І вось гэтае пытаньне сядзела ў мяне ў галаве цэлых трынаццаць гадоў.

**У.К.: А як жа Вам жылося гэтыя 13 гадоў?**

М.Е.: У 1946 г. аднавіўся ў інстытуце, залікова кніжка ў вайну прапала, але нейкім цудам захаваўся студэнцкі білет. Жыў у інтэрнаце, скончыў інстытут, атрымаў накіраваньне ў асьпірантуру, бо добра вучыўся. Але праз год кінуў, бо тое, што я хацеў вывучаць, — не далі, а тое, што прапаноўвалі, — мяне не задавальняла. Я прасіў тэму «Развіцьцё беларускай літаратурнай мовы ў XIX стагодзьдзі». Гэта ж і літаратура, і гісторыя, і палітыка. Можна было б цікавую працу напісаць. Мне прапаноўваюць «Вобраз Сталіна ў беларускай літаратуры і фальклёры». Я сказаў, што такую тэму не падніму, і пайшоў. Пайшоў у міністэрства, было вакантнае месца ў Маладэчне, у настаўніцкім інстытуце, выкладаць беларускую літаратуру. Вось так я апынуўся ў Маладэчне. Літаратуру я знаў добра, шмат чытаў, цэлымі зборамі твораў, таму студэнты былі задаволеныя. Я ж без канспэктаў чытаў, па памяці. Але нагрузка была — ня дай Бог. Філялягічны факультэт, гістарычны факультэт, завочнае аддзяленьне. У 1955 годзе інстытут зьліквідавалі, я яшчэ два гады ў інстытуце ўдасканаленьня папрацаваў дый пайшоў на пэнсію па інваліднасьці.

**У.К.: Гэта ўжо які год?**

М.Е.: 57-ы. Пэнсія, ведаеце, 67

# НА ПАЛЕСЬСІ ЁСЬЦЬ СЬВЯТЫНІ



Вёска Сінкевічы. Калода на дрэве каля царквы

***Нібы зь іншага сусьвету, з мрояў ці легендаў. Іх няма ў Зборах помнікаў, у энцыкляпэдыях, часам пра іх ня ведаюць і маладзейшыя мясцовыя жыхары. Толькі бабулькі й дзяды адкажуць на вашае пытаньне станоўча і, нібы па сакрэце, адкрыюць вам ня толькі шлях, як туды дабрацца, але й якое таямнічае паданьне...***

Аляксей ФРАЛОЎ



У Кажан-Гарадку, на ўскрайку, ёсьць узвышша, якое тутэйшыя людзі называлі Відушавай гарой. Гавораць, нібы менавіта на ёй быў пахаваны слынны рымскі паэт Авідый, які быццам загінуў тут, на Палесьсі. З таго часу гару пачалі называць Відушавай, а побач з тым славутым пахаваньнем яшчэ ў даўнія часы зьявіліся магілы вядомых (і ня вельмі) мясцовых жыхароў... Магчыма, акурат той пагорак, дзе сёньня могілкі, зьвязаны зь легендаю. Можа й не. Але дакладна тое, што на тых могілках у Кажан-Гарадку, прыхаваная старымі хвоямі й густымі ялінамі, стаіць драўляная капліца. Гэты невялікі старадаўні храм, не зафіксаваны ў энцыкляпэдыях, нібы прыйшоў зь беларускіх казак. Суворыя, сьцямнелыя ад часу бярвеньні неашаляваных сьценаў утвараюць аднанэфавы аб'ём з трохграннай апсыдай. Чатырохсхільны дах абапіраецца на шырокія кансолі. Вэртыкальныя нашчыльнікі, прастакутныя невялікія вокны зь ліштвамі сьціпла рытмізуюць экстэр'ер. У інтэр'еры, у алтарнай частцы, праглядаюцца простыя барочныя рэмінэсцэнцыі. Усё выглядае на тое, што храму ня менш як 150—200 гадоў. Асабліва заварожвае фасад капліцы з арыгінальным драўляным «парталам» і даўнім звонам, прымацаваным пад самым карнізам...



Кажан-Гарадок, капліца на могілках — капліца з паданьня

Кажуць, у 1863 годзе ў Кажан-Гарадок прыйшлі паўстанцы Каліноўскага. Яны хаваліся пэўны час у старой драўлянай капліцы...

## Капліца, прывіды і Ленін

Гісторыю яшчэ аднаго палескага помніка — мэмарыяльнай капліцы ў гонар вызваленьня сялянаў ад прыгону 1861 году — распавёў нам адзін ленінец (жыхар вёскі Ленін). Пэўна, ён мае рацыю — каплічка пабудаваная ў канцы 60-х — у 70-я гады XIX ст., гэта відаць па псэўдарускіх галоўках. Але ў астатнім — помнік вельмі самабытны. Невялічкі, амаль квадратны ў пляне драўляны аб'ём з інтэр'ерам, адкрытым праз вялікую паўцыркульную арку ўваходу ў навакольную прастору. З бакоў, у ваконных праёмах, дзе раней нібыта былі вітражы, зьвісаюць напаўабарваныя ветрам тканіны — «запавесы». Ад сьнегу і дажджу яны прыкрываюць невялічкі алтар з абразамі, над ім правісае падшыўная столь «а ля купал»... Выгляд амаль містычны, як у Міцкевіча («Ані сьвечак, ні газьніцаў. Вокны ўскрыйце тканіною...»)

Асабліва рамантычная капліца ўночы, калі прывіднае месяцовае сьвятло прабіраецца скрозь чорныя лапы-галіны вялізных дрэваў. Праўда, мясцовыя людзі пабойваюцца хадзіць тут у цёмную пару. Штось палохае іх на тых могілках. І, мабыць, ня прывід камунізму... Кажуць — гэта тутэйшы анэкдот:

«Звычайна жыхары як сьцямнее, абыходзяць тое месца за мілю. Але было неяк адной жанчыне ніяк не абмінуць шляху праз могілкі — ён быў найкарацейшы, а яна вельмі сьпяшалася дадому...

Пад вечар падняўся вецер. Чорныя цені дрэваў поўзалі па зямлі, высьветленыя поўняй. Жанчынка з жахам адмервала крок за крокам. Мінуўшы капліцу, яна паступова набліжалася да цёплых агеньчыкаў вясковых хатаў. А вось на ўскрайку могілак і абрыс нейкага чалавека — узрадавалася жанчына і пабегла насустрач.

— Пачакайце, як добра, што я вас сустрэла! Цяпер ужо будзе нястрашна дайсьці да вёскі!

— А чаго вы баіцеся?

— Ды ведаеце, кажуць — розныя здані, прывіды ў поўню з грабніцаў вылазяць. Але цяпер, разам, мне нястрашна!

— І сапраўды, не разумею, чаму людзі нас так баяцца, — адказаў абрыс...»

Тыя могілкі з капліцай знаходзяцца на ўскрайку паселішча Леніна — раней мястэчка, а сёньня вёскі ў Жыткавіцкім раёне. Яго гучнае імя таксама мае легендарны корань. У прывілеі Жыгімонта Аўгуста князю Юр'ю Алелькавічу ад 1568 г. на заснаваньне мястэчка згадваецца яго назва — Ленін (упершыню ў пісьмовых крыніцах). Як бачыце, тапонім існаваў яшчэ да разбудовы паселішча. А вось што гаворыць легенда пра яго паходжаньне:

«Валодаў гэтымі мясьцінамі добры багаты пан. У яго была жонка Алена, якую гаспадар вельмі кахаў. Да дня жончыных імянінаў захацеў пан зрабіць любай дарагі падарунак, які нельга ні разьбіць, ні згубіць. Вось і выбраў ён маляўнічае месца ў сваіх уладаньнях, на беразе рэчкі Случ, і збудаваў для жонкі прыгожую сядзібу. Назваў пан, а за ім і іншыя людзі той маёнтак Аленін, ці Ленін. Стуль і назва мястэчка, якое вырасла вакол сядзібы».

А зараз, на падставе вышэйпаданай інфармацыі і легенды, выкажам гістарычную гіпотэзу:

Заснавальнік мястэчка, князь Слуцкі, удзельнік Лівонскае вайны Юры Алелькавіч пры атрыманьні прывілея на разбудову мястэчка верагодна ўжо меў у спадчыне гэтыя землі са згаданым тапонімам. Ягоны бацька, таксама Юры Алелькавіч, князь Слуцкі, удзельнік Аршанскае бітвы 1514 году, быў жанаты з Аленай, народжанай Радзівіл. Магчыма менавіта для яе стары пан Алелькавіч зрабіў той легендарны падарунак — сядзібу з імём каханай князёўны Алены.

Назва гэтая дайшла да нашых дзён, але набыла іншае адценьне. Паводле досьледаў мясцовага краязнаўцы-ленінца Ўладзімера Баярына, менавіта гэтай нашай вёсачцы зь пяшчотнай назвай сусьветны пралетарыят абавязаны «славным именем вождя». У 1895 годзе Ільіч спыніўся ў Вільні. Каб распаліць сусьветны пажар рэвалюцыі, патрэбныя былі вялікія матэрыяльныя ўліваньні, патрэбны быў стартавы капітал. Ці добра, ці дрэнна ішло ў яго зьбіральніцтва, але надзвычай прадуктыўнай для справы рэвалюцыі аказалася сустрэча з багатымі габрэйскімі купцамі зь мястэчка Ленін. Ільіч быў вельмі натхнёны аказанай яму падтрымкай і паразуменьнем. У памяць пра сустрэчу, у знак братэрства й падзякі гаспадам-таварышам ён узяў дарагую сэрцу назву іх радзімы сабе за псэўдонім. Ленінскі краязнаўца мог бы дэталёва распавесьці пра гэты факт, бо шмат часу прысьвяціў яго дасьледаваньню і мае дакумэнтальныя зьвесткі. Сярод іх — сьведчаньні пра тую сустрэчу саміх ленінцаў, якія пасьля пераехалі ў Ізраіль. Афіцыйная ж вэрсія пра падзеі на рацэ Лена — пазьнейшая і больш ідэалістычна-рамантычная. Ульянаў-Ленін быў вялікі матэрыяліст.

## Забытая спадчына

Мабыць, толькі цікаўныя птушкі зьлятаюць сюды «душамі» з высокіх дрэваў, з-пад нябёснага купалу апускаюцца засмучаныя анёлы на паўзламаны «драўляны каўчэг» — старажытную капліцу ў вёсцы Пагост (на Тураўшчыне). Яна стаіць на могілках на ўскрайку вёскі, прыкрытая ад чужога вока маляўнічымі векавымі дрэвамі. На некаторых зь іх таямнічымі абярогамі зьвісаюць старыя калоды. Яны, даўно пакінутыя пчоламі, часта глядзяць у навакольле прарэзамі ў форме сэрца. Здаецца, што мясцовы майстар, адыходзячы з гэтага сьвету, падарыў роднай зямлі частачку сваёй душы. Ён пакінуў вартаўнікоў-назіральнікаў, якія зь любоўю сочаць за сьвятынямі дзядоў — даўнімі крыжамі і старым драўляным храмам, нібы перанесеным зь іншага часу, выкінутым ракою жыцьця на вечны спачын, у прастору забыцьця, на могілкі, куды не дабраліся ні разбуральнікі, ні ахоўнікі спадчыны...

Тыя арыгінальныя мясцовыя крыжы маюць старажытную аснову, простую лацінскую форму, а не чужую, «рускую», як называюць на Палесьсі пазьнейшыя крыжы з дадатковай дыяганальнай перакладзінай. Надзвычай цікавая і сама капліца, якая таксама ня ўключаная ў Збор помнікаў... Пабудову можна датаваць не пазьней як XVIII ст. Многае кажа пра яе барочную стылістыку. Храм складаецца з асноўнага прастакутнага аб'ёму і падобнай (трохі меншай) апсыды, якую яшчэ пакрывае прыгожы гонтавы дах. Па ўсім пэрымэтры пад карнізам праходзіў прыгожы аркатурны пояс, які фрагмэнтарна захаваўся. Тонкі трохпалосны сандрык (з арнамэнтальнай разьбою пасярэдзіне) аздабляе простыя абрамленьні вокнаў і ўваходаў у капліцу. Над цэнтральнай часткай разьмяшчаўся васьмігранны сьветлавы барабан з чатырма лучковымі праёмамі вокнаў, праз якія ў храм праліваліся скрыжаваныя промні сьвятла. На жаль, зараз уся гэтая прыгожая канструкцыя разам з праваленым дахам асноўнага аб'ёму ляжыць пасярод храму і паволі гніе пад сьнегам. Як і рэшткі трохкутнага фасаднага франтону, што ляжаць на зямлі, прыхіленыя да сьцяны. Толькі рупліва прывязаны адвечным белым з чырвонай арнамэнтыкай ручніком да пазасталага апсыднага слупа крыж сымбалічна сьведчыць, нягледзячы на агульнае забыцьцё і запусьценьне, што гэта ўсё ж месца памяці і месца надзеі... На Адраджэньне.

## Анёлы — людзям!

Тры «невядомыя» палескія капліцы — у Кажан-Гарадку, вёсцы Ленін і вёсцы Пагост — існуюць нібы ў іншым часе і вымярэньні, там, дзе няма Збораў, рэестраў, сьпісаў, Камітэту па «ахове» гісторыка-культурнай спадчыны, ды й аховы сапраўднай. Пра іх не пісалі, а мо й ня ведаюць знаныя навукоўцы, нібы няма тых храмаў. Дасьведчаныя людзі кажуць, што за савецкім часам многія культавыя будынкі спэцыяльна не былі ўнесеныя ў Збор помнікаў, каб не было там іх зашмат. «Няма помніка — няма праблемаў».



Вёска Пагост. Руіны барочнай капліцы на могілках

А каплічкі тыя перажылі ўсё, перахаваліся за высокімі цьвінтарнымі дрэвамі, каб нагадваць тутэйшым людзям пра самае важнае ў жыцьці, пра Божыя Запаветы, Родны Край і, як тыя анёлы, пра Сьвятую Веру.

*Здымкі аўтара*
*Эўрапейскі шлях.*
*Палесьсе — Менск*

# СТО БЕЛАРУСКІХ КНІГ XX СТАГОДЗЬДЗЯ



Здымак Міхала Баразны

Кастусь Антановіч жыве ў Менску на вуліцы «Сиреневой», што не мілагучна па-беларуску, таму ў дужках аўтар дадаў — Бэзавай. Кастусю 15 гадоў. Яго абурае, што калі гаворыш па-беларуску або носіш сымболіку, «добра, калі цябе называюць яшчэ бэнэфафцам, часьцей жа за ўсё... фашыстам, нацыстам, здраднікам. Сапраўды крыўдна, калі ты яшчэ і БНФ толькі часткова». Гэткі сабе нармальны чалавек, якога з-за ягоных нармальных прыхільнасьцяў да роднага абставіны ператвараюць у змагара. «Вельмі крыўдна, — піша Кастусь. — Так у мяне пасьля гэтых словаў шчыміць сэрца, але таксама ў гэты час зьяўляецца гонар за тое, што я трымаюся, не паддаюся ўплыву гэтых нізкіх людзей. Таму трэба ў першую чаргу нам, гістарычным насельнікам нашай зямлі, дапамагчы тым, хто ня вырашыў свой лёс ці ўсё ж папаў пад уплыў гэтага рэжыму». Ну вось, хлопец любіць сваё, а дзяржава яго за тое насяляе ваяўнічым духам. Усё слушна, Кастусь, пры акупанцкім рэжыме трэба бараніць сваю культуру і сваю мову.

Найболей Кастусь любіць чытаць Быкава, ягоную «Аблаву». «Гэты пісьменьнік праз свае творы зрабіў мяне сапраўдным патрыётам Бацькаўшчыны». А улюбёны верш Кастуся — Купалава «Спадчына». Праўда, у Кастусёў сьпіс трапілі ня толькі кнігі, але і асобныя творы — вершы, апавяданьні, што супярэчыць умовам нашага рэйтынгу, бо сьпіс складаецца менавіта з кніг. Між тым, дзякуючы Кастусю, у нашым агульным сьпісе зьявіліся імёны Алеся Масарэнкі, Уладзімера Бельскага, Аляксея Ненадаўца.

А вось Марыя Юхнэль з Гарадзеі каля Нясьвіжу назвала толькі адну кнігу — «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» Уладзімера Караткевіча. Няма ніякага сумневу, што гэты раман ужо мае гарантаванае месца ў залатой сотні стагодзьдзя — ажно 26 чытачоў падалі за яго свой голас.

Станіслаў Бугар зь Дзятлавічаў Лунінецкага раёну паставіўся да сьпісу з усёй адказнасьцю і працягвае рабіць асабістыя адкрыцьці. «Сапраўдным адкрыцьцём для мяне стаўся невялікі паэтычны зборнік-паэма Алеся Барскага «Блізкасьць далёкага», выдадзены ў далёкім 1983 годзе ў Беластоку». Спадар Станіслаў мяркуе, што гэтую кнігу варта абавязкова прачытаць (перачытаць) сучасьнікам. Уключаем у агульны сьпіс, але мусім канстатаваць, што гэта толькі першы голас за згаданую кнігу, а ўсяго ў нашым агульным сьпісе пад тысячу назваў.

Клім Скрабец зь Менску напісаў, што ідэя сьпісу яму падабаецца, а сам сьпіс — не. Маўляў, у ім «шмат невядомых кніг, якіх ні я, ні мае дзеці не чыталі». Між іншым, адна з мэтаў гэтага рэйтынгу якраз у тым, каб іншыя людзі падказалі нам, якіх кніг мы не ведаем, але ведаць варта. Розныя густы заважваюцца статыстыкай. У газэце мы друкуем толькі вяршаліну сьпісу, бо на поўны не хапіла б месца.

Галіна Ўласава зь Менску мае іншую думку — маўляў, усе кнігі вядомыя. Яна піша: «Зь цікавасьцю сачу за вашай рубрыкай «100 кніг». І што мы бачым? Анічога, акрамя той трывала ўсталяванай гіерархіі імёнаў, да якой усе й так прывучаны і прызвычаены. Спрачацца з «голасам народу» не зьбіраюся, але маю сьмеласьць скарыстацца чытацкім правам і прапанаваць сьпіс кніг, якія бездаросна вашага рэйтынгу і часу зоймуць пачэснае месца ў гісторыі і культуры нашай Бацькаўшчыны (на маю думку, вядома)». Няма сэнсу спрачацца, што агулам каштоўных беларускіх кніг у XX ст. выдадзена ня сотня, а тысячы. Але ў гэтай рубрыцы мы гаворым пра масавыя прыхільнасьці, пра тое, што сапраўды варта мець у сваёй бібліятэцы кожнаму беларусу, незалежна ад узросту ці спэцыяльнасьці. Гэта тое, праз што кожны можа прыйсьці да Беларусі, спазнаць і палюбіць Беларусь, а разам на ўсё жыцьцё палюбіць гэтыя кнігі.

Аднак вось што прапануе сп.Галіна «зь нестандартнага» (уключаем у агульны сьпіс): «Народныя песьні з мэлёдыямі» М.Гарэцкага (ён, дарэчы, гэтыя песьні запісваў ад свае маці), «Камень з гары» У.Дамашэвіча, «Нёманаў дар» Якуба Коласа, «Пярсьцёнак» А.Сербантовіча, «Босыя на вогнішчы» Міхася Чарота, «Вершы жаданьняў» В.Маракова, «Замкі і людзі» П.Бітэля... Гэтыя кнігі добра вядомыя ўсім, хто ў 70-80-я гады пачынаў зьбіраць свае бібліятэкі беларушчыны.

«І, вядома, Уладзімер Караткевіч, — завяршае сп. Галіна, — па-за ўсялякімі сьпісамі і рэйтынгамі!» Шкада толькі, што не названыя канкрэтныя кнігі Караткевіча.

«Многае зь пералічанага чыталася шмат гадоў таму, але я па сёньняшні час помню, як яно ўзрушала маю душу і хвалявала сэрца. У розны час, на розных этапах свайго жыцьця, я праз прыгажосьць, факты, падзеі і герояў гэтых кніжак набліжаўся да ўсьведамленьня Беларусі як Радзімы, як краіны і як будучыні», — піша Раман Станкевіч зь Менску. Сп.Раман, таксама як і Кастусь Антановіч называе часам асобны верш або песьню. Мы ж аддаем гэтыя галасы тым зборнікам, у якіх тыя асобныя творы друкаваліся.

І яшчэ — P.S. у лісьце сп.Рамана: «Кніжка Арлова і Сагановіча «10 вякоў беларускай гісторыі», безумоўна, заслугоўвае ўключэньня ў сьпіс, але, на мой погляд, сёньня яна як найбольш скіраваная ў будучыню. Таму і мусіць будзе пастаўлена пад нумарам 1 у сьпісе стагодзьдзя XXI».

Магчыма, гэта і так. Але тут воля чытачоў — ці захочуць яны ўключыць новую кнігу ў свае сьпісы, ці не. Прынамсі сёньня мы ўжо маем некалькі галасоў — за «10 вякоў» у залатой сотні XX ст..

П.Тарасевіч зь Менску назвае кнігі, якія, на ягоную думку, перадаюць дух, існасьць і асаблівасьць Беларусі, яе гісторыю і культуру, характар беларусаў. «Гэтыя кнігі я ўзяў бы з сабою ў эміграцыю, калі б такое здарылася».

Сярод зусім новых у нашым сьпісе аўтараў і кніг зьвяртаюць увагу дзьве аповесьці Івана Сяркова «Мы з Санькам у тыле ворага» і «Мы хлопцы жывучыя», якія назваў чытач з вул. Якубава ў Менску (подпіс неразборлівы).

Такім чынам, наш кніжны рэйтынг працягваецца.

Сёньня мы друкуем больш шырокі сьпіс (пачынаючы ад кніг, што набралі пяць галасоў), каб уявіць, якія назвы маюць найболей шанцаў увайсьці ў залатую сотню. Нагадваем, што іхны рэйтынгавы лёс будзе залежаць ад вашых дапісаў.

**Крыт.**

Багдановіч М. Вянок (52)
Караткевіч У. Дзікае паляваньне караля Стаха (44)
Быкаў В. Знак бяды (39)
Колас Якуб. Новая Зямля (38)
Караткевіч У. Каласы пад сярпом тваім (37)
Сагановіч Г. Невядомая вайна (35)
Караткевіч У. Чорны замак Альшанскі (34)
Купала Янка. Спадчына (33)
Геніюш Л. Споведзь (32)
Тарашкевіч Б. Беларуская граматыка для школаў (32)
Ермаловіч М. Старажытная Беларусь (31)
Ластоўскі В. Кароткая гісторыя Беларусі (29)
Ігнатоўскі У. Кароткі нарыс гісторыі Беларусі (28)
Мележ І. Людзі на балоце (28)
Смоліч А. Геаграфія Беларусі (28)
Быкаў В. Сотнікаў (27)
Колас Якуб. На ростанях (27)
Маўр Янка. Палескія рабінзоны (27)
Аляхновіч Ф. У кіпцюрох ГПУ (26)
Арсеньнева Н. Пад сінім небам (26)
Караткевіч У. Хрыстос прызямліўся ў Гародні (26)
Купала Янка. Жалейка (26)
Чаропка В. Імя ў летапісе (26)
Арлоў У. Таямніцы полацкай гісторыі (25)
Тарасаў К. Памяць пра легенды (25)
Караткевіч У. Зямля пад белымі крыламі (24)
Гарэцкі М. Рунь (23)
Ермаловіч М. Па сьлядах аднаго міту (23)
Туронак Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй (23)
Энцыкляпэдыя гісторыі Беларусі (23)
Быкаў В. Сьцяна (22)
Быкаў В. Альпійская баляда (21)
Колас Якуб. Сымон-музыка (21)
Ластоўскі В. Падручны расейска-крыўскі (бел.) слоўнік (21)
Архітэктура Беларусі. Энцыкляпэдыя (18)
Віцьбіч Юрка. Плыве з-пад сьвятое гары Нёман (18)
Гарэцкі М. Дзьве душы (18)
Гарун Алесь. Матчын дар (17)
Геніюш Л. Ад родных ніў (17)
Гілевіч Н. Родныя дзеці (17)
Цётка. Хрэст на свабоду (17)
Акула Кастусь. Змагарныя дарогі (15)
Гарэцкі М. Гісторыя беларускай літаратуры (15)
Дайнека Л. Сьлед ваўкалака (15)
Кіпель В. Беларусы ў ЗША (15)
Мысьліцелі й асьветнікі Беларусі (15)
Ткачоў М. Замкі Беларусі (15)
Адамовіч А., Брыль Я., Калесьнік Ул. Я з вогненнай вёскі (14)
Алексіевіч С. У вайны не жаночае аблічча (14)
Беларусь. Энцыкляпэдычны даведнік (14)
Даўнар-Запольскі М. Гісторыя Беларусі (14)
Калубовіч А. Крокі гісторыі (14)
Купала Янка. Тутэйшыя (14)
Ластоўскі В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі (14)
Разанаў А. Вастрыё стралы (14)
Тарасаў К. Пагоня на Грунвальд (14)
Цьвікевіч А. «Западно-руссизм» (14)
Абдзіраловіч Ігнат. Адвечным шляхам (13)
Быкаў В. Аблава (13)
Мрый Андрэй. Запіскі Самсона Самасуя (13)
Сямашка Я. Армія Краёва на Беларусі (13)
Найдзюк Я. і Касяк Р. Беларусь учора і сяньня (12)
Караткевіч У. Быў. Ёсьць. Буду (11)
Станкевіч А. Родная мова ў сьвятынях (11)
Этнаграфія Беларусі. Энцыкляпэдыя (11)
Барадулін Р. Эвангельле ад мамы (10)
Вядзьмак Лысагорскі. Сказ пра Лысую гару (10)
Дайнека Л. Меч князя Вячкі (10)
Ілюстраваная храналёгія гісторыі Беларусі (10)
Караткевіч У. Нельга забыць (10)
Карскі Я. Беларусы (10)
Скарына. Энцыкляпэдыя (10)
Алексіевіч С. Цынкавыя хлопчыкі (9)
Археалёгія і нумізматыка Беларусі. Энцыкляпэдыя (9)
Мележ І. Палеская хроніка (9)
Цётка. Скрыпка беларуская (9)
Адамчык В. Чужая Бацькаўшчына (8)
Брыль Я. Птушкі і гнёзды (8)
Быкаў В. У тумане (8)
Гілевіч Н. У добрай згодзе (8)
Каліноўскі Кастусь (Беларускі кнігазбор) (8)
Крапіва Кандрат. Хто сьмяецца апошнім (8)
Купала Янка. Жыве Беларусь (8)
Лынькоў М. Міколка-паравоз (8)
Менская вясна — 1996 (8)
«Наша Ніва». Факсыміле (8)
Некрашэвіч С. і Байкоў М. Беларуска-расейскі слоўнік (8)
Салавей Алесь. Нятускная краса (8)
Сыс А. Пан Лес (8)
Цітоў А. Гарадзкая геральдыка Беларусі (8)
Чаропка В. Уладары Вялікага княства (8)
Адамовіч С. Каханьне пад акупацыяй (7)
Крапіва Кандрат. Байкі (7)
Купала Янка. Курган (7)
Мальдзіс А. Беларусь у люстэрку мэмуарнай літ. XVIII ст. (7)
Раманюк М. Беларускае народнае адзеньне (7)
Сачанка Б. Сьняцца сны аб Беларусі (7)
Станкевіч Я. Бел.-расейскі (вялікалітоўска-расейскі) слоўнік (7)
Статут 1588. Сучаснае выданьне (7)
Сто пытаньняў і адказаў з гісторыі Беларусі (7)
Танк Максім. На этапах (7)
Чорны Кузьма. Трэцяе пакаленьне (7)
Шчакаціхін М. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва (7)
Энцыкляпэдыя прыроды Беларусі (7)
Адамовіч А. Карнікі (6)
Адамовіч А. Хатынская аповесьць (6)
Беларуская мова. Энцыкляпэдыя (6)
Гайдук М. Паратунак (6)
Гарэцкі М. Віленскія камунары (6)
Гарэцкі М. Камароўская кроніка (6)
Караткевіч У. Сівая легенда. Ладзьдзя роспачы (6)
Купала Янка. Шляхам жыцьця (6)
Лёсік Я. Творы (6)
Лойка А. Скарына, або Сонца маладзіковае (6)
Пазьняк З. Сапраўднае аблічча (6)
Разанаў А. Шлях-360 (6)
Сокалаў-Воюш С. Кроў на сумётах (6)
Туга па радзіме (паэзія беларускай эміграцыі) (6)
Чаропка В. Храм бяз Бога (6)
Юхо Я. Кароткі нарыс гісторыі дзяржавы і права Беларусі (6)
Адамовіч С. Плавільшчыкі расы (5)
Анталёгія беларускай паэзіі (3 т.) (5)
Арлоў У. Адкуль наш род (5)
Арсеньнева Н. Між берагамі (5)
Буйло К. Курганная кветка (5)
Быкаў В. Дажыць да сьвітаньня (5)
Быкаў В. Жураўліны крык (5)
Быкаў В. Кар'ер (5)
Быкаў В. Мёртвым не баліць (5)
Віцьбіч Юрка. Антыбальшавіцкія паўстаньні... (5)
Вядзьмак Лысагорскі. Лука Мудзішчаў — прэзыдэнт (5)
Гарэцкі М. На імпэрыялістычнай вайне (5)
Геніюш Л. Белы сон (5)
Глёбус Адам. Толькі не гавары маёй маме (5)
Грахоўскі С. Фанаты (5)
Дайнека Л. Жалезныя жалуды (5)
Далідовіч Г. Заходнікі (5)
Жылка У. (Беларускі кнігазбор) (5)
Запруднік Я. Беларусь на гістарычных скрыжаваньнях (5)
Карпюк А. Данута (5)
Колас Якуб. Песьні жальбы (5)
Купала Янка. Гусьляр (5)
Лойка А. Як агонь, як вада (5)
Лукашук А. Філістовіч (5)
Мележ І. Подых навальніцы (5)
Новы запавет. Псалтыр (пераклад В.Сёмухі) (5)
Пранчак Л. Беларуская Амэрыка (5)
Рубанаў У. Не аднойчы забіты (5)
Сяднёў М. Патушаныя зоры (5)
Улашчык М. Уводзіны ў вывучэньне бел.-літ. летапісаньня (5)
Яновіч С. Беларусь, Беларусь (5)

## НОВЫЯ КНІГІ, ДАСЛАНЫЯ Ў РЭДАКЦЫЮ

Н.Вайцяховіч. **Шацак:** Краязнаўчыя нарысы. — Менск: Пэйта, 1999. — 80 с. — (Ведаць свой край Беларусь.) — Наклад 1000 ас. ISBN 985-6024-20-X

А.Махнач. **Нізок:** Краязнаўчыя нарысы. — Менск: Пэйта, 1998. — 72 с. — (Ведаць свой край Беларусь.) — Наклад 1000 ас. ISBN 985-6024-22-6

*Гэта другая кніга з сэрыі «Ведаць свой край Беларусь» прыватнага выдавецтва «Пэйта». Нізок вядомы тым, што тут нарадзіліся Кандрат Крапіва, Паўлюк Трус ды Лідзія Арабей.*

М.Мікуліч. **Максім Танк: На скразьняках стагодзьдзя.** — Менск: Мастацкая літаратура, 1999. — 254 с.: іл. — Наклад 1800 ас. ISBN 985-02-0361-7

*Аўтар робіць адну зь першых па сьмерці пісьменьніка спробаў асэнсаваць фэномэн Максіма Танка, энігмы беларускай літаратуры XX ст.*

**Памяць: Добрускі раён:** гістарычна-дакумэнтальныя кронікі гарадоў і раёнаў Беларусі. У 2-х кн. Кн.1/ Укладальнік П.Рабянок; Мастак Э. Жакевіч. — Менск: Мастацкая літаратура, 1999. — 358 с.: іл. — Наклад 3053 ас. ISBN 985-02-0165-7

*Кніга ахоплівае пэрыяд ад найстаражытнейшых часоў да 1943 г., калі на Добрушчыну вярнуліся бальшавікі.*

У.Паўлаў. **Дазор на Сухой мілі:** Выбраныя аповесьці: Для малодшага школьнага веку / Мастак В.Прыешкін. — Менск: Юнацтва, 1999. — 238 с.: іл. — Наклад 3000 ас. ISBN 985-05-0234-7

А.Разанаў. **Танец з вужакамі:** Выбранае. — Менск: Мастацкая літаратура, 1999. — 462 с. — (Беларуская паэзія XX ст.) — Наклад 2000 ас. ISBN 985-02-0468-0

*Кніга ў цьвёрдай вокладцы, аздобленай рэпрадукцыяй уніяцкага абраза XVIII ст. «Цуд Юр'я аб зьмяі».*

М.Танк. Избранное: Пераклад зь беларускай мовы / Укладаньне, уступны артыкул В.Рагойшы. — Менск: Мастацкая літаратура, 1999. — 398 с.: іл. — Наклад 1600 ас. ISBN 985-02-0378-1

**Чытаў кнігі Віктар Мухін**



Фота Алены Адамчык

# АВАРЫІ

*Апавяданьне*

Адам ГЛЁБУС

Калі зьбіраешся ў дарогу, кладзі ў кішэню два пашпарты. І пад час канфлікту адразу аддавай адзін пашпарт міліцыянту, паліцыянту ці пакрыўджанаму табой чалавеку. Такое ўражвае й гасіць страсьці. Вораг шалее, крычыць, біцца лезе, а ты: "На мой пашпарт і супакойся". Тоненькая кніжачка, а супакойвае, як магутны транквілізатар. Пачынаецца чытаньне, гартаньне, разглядваньне. Агрэсія пераходзіць зь цябе на паперу. Калі пашпарту няма, замяні грашыма. Разгарні кашалёк, пакажы, колькі ёсьць грошай, і аддай большую палову. Грошы ўзьдзейнічаюць горш за пашпарт, але безадмоўна. Пашпарт, вядома, лепшы сродак. Толькі далёка ня ў кожнага іх два. А вось адзіны пашпарт аддаваць ня варта. У мяне два пашпарты, і я магу сабе дазволіць адзін запусьціць на абаронныя дзеяньні. Адкуль узяўся дублікат? Выпадак.

Я ішоў на мітынг пратэсту. Мы, беларусы, супраць суседняй Русі дзесяць гадоў ходзім на акцыі пратэсту і б'емся зь мянтамі, тымі самымі, што выдаюць пашпарты, б'емся зь беларускімі паліцыянтамі. Пагаворваюць, што ў душы нашыя мянты за нас. Напэўна, яны за нас, як і паліцаі былі за нас, як партызаны былі за нас. Асабіста я скарыстаў момант і за дзесяць хвілінаў да пачатку акцыі зайшоў у мянтоўку, каб забраць новенькі пашпарт з залатой Пагоняю на вокладцы. У аддзяленьні, што каля кінатэатру "Перамога", была процьма амапаўцаў у шаломах з дубінкамі. Некаторыя мелі аўтаматы. Мне выдалі пашпарт і ў мітусьні забыліся забраць стары савецкі.

З двума пашпартамі ў кішэні я ўдзельнічаў у бойцы каля гастраному "Пад гадзіньнікам", што насупраць КДБ. Народу абапал скарынаўскага праспэкту было процьма. Хлопцы зь "Белага легіёну" паспрабавалі выйсьці на праезную частку. Тут і пачалося. Мянты, якія нібыта нашы, пачалі нас зьбіваць, хапаць і кідаць у машыны. Жаданьня вяртацца ў пастарунак, хай сабе й з двума пашпартамі, у мяне не было. Гэта ў той дзень у аддзяленьні склалі пратакол, зь якога вынікала, што цалкам глуханямы хлопец выкрыкваў антыпрэзыдэнцкія лёзунгі й лаяўся матам. Думаю, і ты не захацеў бы ў такі пастарунак. Але адна справа хацець, а іншая — мець.

Вось у дзяцінстве я хацеў двухколавы ровар. І бацька набыў такі ровар у дыплямата Калбасьева. Дыплямат, як і мусіць быць, езьдзіў за мяжу на перамовы й прывозіў рознае ўсялякае. Прывёз ён і дзіцячы ровар — блакітны, з тоўстымі жоўтымі коламі, нямецкі. А дачка дыплямата — Люда — адмовілася катацца на ім. Ровар прадалі нам.

Я навучыўся катацца ў адно імгненьне. Сеў і паехаў, нібыта ўсё жыцьцё езьдзіў на двухколавым ровары.

Бацька зьбіраўся пайсьці ў краму "1000 дробязяў", я напрасіўся паехаць зь ім. Тым больш, што мне ў сэкцыі фігурнага катаньня загадалі прынесьці тэнісны мячык. Бацька ішоў, я ехаў побач. Ад вуліцы Кузьмы Чорнага да парку Чалюскінцаў спускаецца вузенькая вулка. Я пачаў набіраць хуткасьць. Бацька яшчэ быў на гары, а я ляцеў уніз. Раптам з-за рогу зьявіўся мужчына зь дзяўчынкаю. Каб не задушыць дзяўчынкі, я паехаў на дом. Пярэдняе кола ўскочыла ў дзірку паміж сьцяною і вадасьцёкавай трубой. Я пераляцеў праз руль і рэзнуўся галавою ў бляху. Каб у цэглу, дык прытомнасьць вярнулася б значна пазьней, калі б наагул вярнулася. А так я расплюшчыў вочы ў чужой ваньне. Чужая жанчына ўбачыла праз вакно аварыю. Выбегла, узяла мяне на рукі й занесла ў сваю кватэру. Яна абмывала мне твар, калі я апрытомнеў.

У краму "1000 дробязяў", што насупраць парку, бацька мяне звадзіў, мячык мы прыдбалі й дамовіліся, што маме ня скажам пра аварыю, пры якой я наляцеў галавою на трубу. Я й не сказаў. Выклаў усё бацька. Дома я скруціўся на фатэлі й заснуў. Маці спытала ў бацькі, чаму я сплю пасярод дня. Бацька раскалоўся. Мяне пабудзілі й павялі да доктара. У бальніцы абвязалі галаву бінтам і сказалі, што я атрымаў першае клясычнае страсеньне мазгоў.

Другое страсеньне было не клясычнае, бо я не зьвяртаўся ў лякарню. Я ехаў у грыбы. Разагнаўся з горкі, каб на хуткасьці праскочыць кавалак дарогі, занесенай пяском. Не праскочыў. Руль вырвала з рук. Я кульнуўся на пясок. Мяккі, шаўкавісты, цёплы быў наш беларускі пясочак. Але пабіўся я моцна. І грыбоў у той дзень не назьбіраў. І можна было б зрабіць высновы, але я зрабіў іх у іншы бок, на карысьць лепшага ровара.

Зь першых стыпэндыяў наадкладаў рублёў і прыдбаў спартовы ровар "Спадарожнік". Тры хуткасьці, тармазы на абодвух колах. І не дапамагло, зноў трапіў у аварыю. Непадалёк ад Кальварыйскіх могілак я вырашыў праскочыць скрыжаваньне на жоўтае сьвятло. І не пасьпеў. На мяне ляцелі два легкавікі. Добра, што "жыгулі" ішлі на мэтры два паперадзе "масквіча". "Жыгулі" ўрэзалі мне па пярэднім коле. Мой ровар разьвярнула на 90°, і "масквіч" не зачапіў зусім. Вадзіцель "жыгулёў" аблайваў мяне густым расейскім брыдкаслоўем. А я маўчаў. Мову заняло. Цяпер я выдатна ведаю, як адымае мову. І жанчына, што сядзела ў праклятых "жыгулях", так і сказала: "Што ты крычыш на яго? Паглядзі, яму мову заняло!" "Што я крычу, б...? Што я крычу? А каб я забіў гэтага разья... і сеў у турму? Зараз я яго ў мянтоўку здам!" Шафяруга выскачыў з машыны й пачаў сьвістаць у міліцыянцкі сьвісток. Тут мова й вярнулася. "Ідзі ты ў сраку, мудак! Сам пёрся на чырвонае сьвятло!" Можа мы б і пабіліся са сьвістуном, каб не ягоная жонка. Сардэчная трапілася кабета. "Ён загаварыў (гэта пра мяне), ты чуеш (гэта да сьвістуна), у яго ўсё нармальна, паехалі". І яны паехалі, а я пакаціў ровар у бліжэйшы двор, дзе сядзеў на лаўцы, можа, гадзіну. Рукі-ногі калаціліся. Так заўсёды пасьля аварыі ў мяне рукі й ногі калоцяцца. І ў Маскве калаціліся.

У аэрапорце "Шарамецьева" мяне з братам сустрэў пісьменьнік Воўка Сотнік. Сьціплы, выхаваны чалавек, а як нап'ецца, заводзіць кружэлку: "Я — вялікі рускі пісацель. Я — вялікі..." Так і карціць спытаць: "Дастаеўскі?" Толькі я не пытаюся. Воўка чалавек добры. У ягонай жонкі Танькі машына адрэзала дзьве нагі. Воўка даглядае, носіць на руках, любіць сваю Таньку. Кранальны выпадак. Танька з Воўкам пішуць раманы пра расейску. А яшчэ пішуць артыкулы ў часопісы й газэты пра значнасьць сваіх раманаў. Такі ў іх сямейны літаратурны бізнэс. Тое-сёе Воўка пісаў і для майго выдавецтва.

Ён сустрэў нас у аэрапорце. Мы пагрузіліся ў "опэль" і выехалі на трасу. Я сядзеў ззаду, брат — сьпераду. Я зірнуў праваруч і ўбачыў, як здаравенны "мэрсэдэс" павольна наплывае на нашу машынку. Ён не наплываў, а ляцеў. Але ў такія моманты ў мяне расьцягваецца час, робіцца марудны-марудны. Мая душа выскачыла зь цела й павісла побач з машынаю. Так што аварыю я пабачыў адразу ў двух варыянтах: знутры й звонку. У машыне мяне ўразіла, як тарганулiся галовы спадарожнікаў. Як не адарваліся?! Чалавек — істота крэпка сканструяваная. На вуліцы бампэр уехаў у дзьверку, за якой сядзеў брат. Душа баязьліва вярнулася ў цела. Я ня стаў яе дакараць. Жыць без душы, хай сабе й баязьлівай, не выпадае. Усё ж я — чалавек. Грузін з "мэрсэдэса" прапанаваў ад'ехацца й разабрацца. Мы ад'ехаліся, але не разабраліся. Да нас падрулілі мянты. О, гэтыя маскоўскія мянты! На фотавыставе Нацыянальнай геаграфічнай супольнасьці зь дзесяці тысячаў карцінак толькі адна была пра Расею. За сто гадоў, зь дзесяці тысячаў, адна — з маскоўскім мянтом. І вось такі вяпрук нас залавіў. І пачалося... Уцяклі зь месца аварыі, хацелі схаваць злачынства. Грузіну ўцёкі каштавалі пяцьдзясят даляраў. Воўка сплаціў кабану ў фуражцы амэрыканскую дзясятку. Морда не захацела браць расейскімі рублямі. Як там ні было, а грузін адрамантаваў "опэль". Сам адрамантаваў. Ён быў яшчэ й аўтамэханікам.

А я, калі трапляю ў інцыдэнт, нічога адрамантаваць не магу, даводзіцца сплочваць грошы. Часам набягаюць немалыя сумы. І як яны будуць малымі, калі за адзін раз мая жонка пабіла чатыры легкавікі? Бум! І "опэль", "жыгулі", "фалькcваген" і "масквіч" пашкодзіліся ў розных ступенях.

Ехалі мы з грыбоў. З грыбамі, ты заўважыў, у мяне непрыемнасьці другі раз. Пачалася залева. Грыбнікі пазалазілі ў машыны й выпаўзьлі на дарогу. На гарачы асфальт ліло, як зь вядра. Дарога ператварылася ў каток. Пад Лагойскам жонка мне сказала: "Паглядзі, які "мэрсэдэс"". І сапраўды, па сустрэчнай паласе да нас набліжаўся выдатны экзэмпляр, вялізны фургон. Калі нашы вочы зірнулі наперад, было запозна нешта рабіць. Наш "опэль" тараніў багажнік "жыгулёў". Мой лоб пацалаваў шкло й намаляваў на ім зорку з трэшчынаў. Калі я выкараскаўся з машыны, на мяне пайшоў дзядзька з кулакамі. "Ты што, гад, нарабіў? У мяне жонка на дзявятым месяцы!" Як якое здарэньне, усе думаюць на мяне чамусьці. З усіх выбіраюць мяне за вінаватага. Можа, твар зладзейскі? "Сам ты, мудак! Не пасказаў, што тармозіш". "А я, б..., і не тармазіў. Я ехаў. Ціха і нармальна ехаў. А ты, б... даў мне ў сраку. А ў мяне жонка праз тыдзень родзіць". "А мая жонка за рулём сядзела. Стой і не п...". Вакол нас назьбіраўся натоўп аварыйнікаў. Жонка плакала. Яе не чапалі. "Хай мянты разьбіраюцца!" Усе разышліся й закурылі ў чаканьні даішнікаў. "Трупы ёсьць?" — першае, што мы пачулі ад старшыны. "Няма!" "Ну, і дзякуй Богу. На гэтым месцы ў нас кожны год нябожчык ёсьць". Пра трупы даішнік гаварыў так, як рыбак пра шчупакоў. Рыбнае месца ў іх там, пад Лагойскам. Топчучы парассыпаныя на дарозе грыбы, мянты мералі й малявалі карціну здарэньня. Вінаваты быў ясна хто. Ворагаў у нас хапала: два чараватыя начальнікі ў зялёных гумовых ботах з "масквіча", два маладыя бізнэсоўцы з "фольксвагена" і сем ідыётаў з "жыгулёў". Цяжарную з "жыгулёнка" звазілі ў бальніцу на "хуткай дапамозе", але пашкоджаньняў не знайшлі й прывезьлі назад. Мент адвёў мяне ў поле й сказаў, што патрымае пацярпелых хвілінаў пятнаццаць-дваццаць, каб мы пасьпелі адарвацца. Маўляў, боек на дарозе яму ня трэба. За месяцы тры я сплаціў грошы за "жыгулі" цалкам і за рамонты трох машын. Дарагія грыбы былі тым летам. Але што наракаць. Жывы, здаровы, і дзякуй Усявышняму.

"Ты Богу, Богу дзякаваць мусіш! Сьвечку ў царкве ці куды ты там ходзіш, пастаў. Каб так упліштычыся й жывым застацца. Гэта толькі Бог можа зрабіць!" — крычаў пракурор Сава ў Ашмянах на трасе Менск—Вільня. У Савы калаціліся рукі й трэслася галава. "У мяне язва адкрылася на нэрвовай глебе. Я ў Менск па лекі ехаў. З бальніцы ўцёк. І тут вы. Каб я руль ня вывернуў — усім капец!" Сапраўды, каб пракурор... Але мадэляваць сваю сьмерць дазваляюць адно самазабойцы. А я з жонкаю ехаў зусім не на ўласнае пахаваньне, а на прэзэнтацыю. Жонка ў мяне майстар рабіць дзяўчатам вечную прыгажосьць на фота. І ня дзіўна, што ў часопісе "Гарпэр базар" зь ёй зрабілі інтэрвію. Пра яе зьнялі рэклямны ролік на Літоўскай тэлевізіі. На прэзэнтацыю часопіса зь відэаролікам мы й несьліся. Надвор'е стаяла яшчэ тое: сьнег з даждом і ветрам. Два разы мы спыняліся, каб лёд з лабавога шкла пазьдзіраць. Хуткасьць была недзе пад сотку. І яе хапіла, каб нас панесла на лёдзе. І панесла. І вынесла на сустрэчную паласу, дзе ехаў хворы пракурор. І амаль пранесла міма. Я думаў, пранесла, дык не. Наш "опэль" сракаю рэзнуўся ў лыч ягонай таратайкі. Рэзнуўся й паляцеў пад адхон. Бляха-апранаха, я не прышпілены пасам сядзеў. За хвіліну да аварыі адшпіліўся. Шукаў запальнічку па кішэнях. Знайшоў, закурыў цыгарэту, як закурвае асуджаны на сьмерць перад пакараньнем. З цыгарэткаю ў зубах я й перакуліўся, спачатку на дах, потым зноў на колы. Абмацаў сябе. Здаецца, жывы. "Ты жывая?" "Жывая!" Вылезьлі з машыны, каб адскочыць, бо рэзнуліся бэнзабакам. Ні дыму, ні агню. Ужо лягчэй. Іду сабе па сьнегу на дарогу. Паглядзець, ці не забілі каго. А да мяне сівы дзядзька ляціць. "Ты, ты, ты што нарабіў?" "Стой і маўчы. Стой і маўчы. Пастаім хвілінку. А потым пагаворым". "Правільна". Пастаялі, пакурылі. Ён з кішэні пракурорскае пасьведчаньне дастаў, а я пашпарт — той, стары, запасны. "На пашпарт і супакойся". І ён крыху астыў. Далей ён назваў, колькі хоча за тарантайку. Я разгарнуў партманэтку, аддаў амаль усё, што меў, і, канечне, застаўся вінен. Пракурор — чалавек дасьведчаны, хто, як ня наш беларускі пракурор ведае, што ў судах праўды нямашака.

У Вільню мы даехалі аўтастопам, і ўсю дарогу літоўскі гандляр будматэрыяламі распавядаў, дзе й як на трасе Вільня—Менск б'юцца машыны.

На прэзэнтацыі барадаты мастацтвазнаўца да маёй гісторыі вынайшаў рэзюмэ: "Вось так людзі й прыходзяць да Бога!" "А можа Бог так прыходзіць да людзей?" — падумаў я, і толькі тады стала страшна. Я пачаў шукаць запальнічку. У кішэнях было поўна шкла.

*Вільня—Менск*
*Люты 1999 году*

т у р м а

# СНОБЫ З УСХОДУ

З увагі на інтэграцыйную трасу апошніх гадоў, трэба асобна сказаць пра грамадзян Расейскай Фэдэрацыі ў нашай калёніі. Сярод небеларусаў тут іх, бадай, найбольшая колькасьць.

З тых часоў, як па ўсіх напрамках сёньняшняга жыцьця ўсчаўся інтэграцыйны лямант, я вельмі раўніва прыглядаюся да тых, з кім у будучыні, магчыма, прыйдзецца зьліцца ў жарсных абдымках братняй любові. Мала хто ўсур'ёз задумваецца пра наступствы хаўрусу з Расеяй з турэмнага боку. Мне здаецца, што менавіта тады нашы родныя й без таго кволыя (у сэнсе здольнасьцяў барацьбы з сапраўднай злачыннасьцю) праваахоўныя органы завыюць па-сапраўднаму. Бо пацякуць шматводнай ракой у Беларусь чырвоныя марынаркі «сонцаўскіх», «тамбоўскіх», «яраслаўскіх», безьліч іншых дробных і буйных бандыцкіх груповак, а таксама легіёны «вольных мастакоў» крадзяжоў і гвалту.

Расейцы ў калёніі — жудасныя снобы. Яшчэ й вельмі пагардлівыя. Прытым зусім беспадстаўна. Увесь час яны енчаць аб тым, якая дзярмовая краіна Беларусь, які гэта мянтоўскі край, які скамарох Рыгоравіч, які тут затурканы, другасны народ і г.д. Яны трымаюцца асобнымі групкамі, лічачы сябе вялікімі эстэтамі, з вышыні гледзячы на астатніх. Між тым, астатнім гэтае стаўленьне абсалютна да фені. Усе гэтыя незрэалізаваныя «новыя рускія» жлабы нагадваюць пэрсанажаў вядомага анэкдоту пра няўлоўнага Джо. Няўлоўнага таму, што нікому не патрэбны. Сапраўды, усе гэтыя вышэй азначаныя вязьні — гэта ніжэйшы эшалён расейскага крыміналітэту, які пацягнуўся ў Беларусь, дзе яшчэ ў пэўным сэнсе нічога не падзелена (NB: але мы з вамі добра ведаем, хто на самой справе ў беларускай хаце гаспадар!), — празрыстая мяжа, побач наетая Польшча, аўташаша эўрапейскага значэньня і да таго падобныя спакусы.

Цікавая дэталь: у дачыненьні да амаль усіх асуджаных расейцаў ажыцьцяўляецца своеасаблівы «апартэід» з боку нашых айчынных судзьдзяў. Бедакі атрымалі дадаткова 2—3 гады звыш звычайнага для падобных дзеяньняў тэрміну літаральна «толькі за тое, што ты сюды прыехаў». Іншым сказам, за што братка-беларус атрымлівае пяць-сем гадоў турмы, расеец — усе дзесяць, а то й больш.

...Тутэйшыя рускія «пацаны» найбольш прыемным заняткам чамусьці лічаць набыцьцё і гартаньне выдатна ілюстраваных «аўтамабільных» часопісаў. Лічаць сябе выбітнымі знаўцамі ў гэтай галіне. Але аб якасьцях уласных самаходаў сьціпла не распавядаюць. Ну, і канечне, паводле іхных легендаў, кожны меў у сваіх маршанскіх нейкі ашаламляльна прыбытковы бізнэс, мех баксаў, тузін даўганогіх мадэлек-палюбоўніц, уласную «бэрэту» ў кішэні і кожны неаднаразова ўдзельнічаў у крывавых «разборках». Калі мяне «дастае» слухаць гэтае трызьненьне, я заўжды задаю прамоўцу забойнае пытаньне: «Калі ты такі з усіх бакоў круты, дык навошта ты да нас прыпёрся?!»

Уцямнага адказу яшчэ ніколі не было...

**Зьміцер Гарбуноў**

## паштовая скрынка

**Сержуку П. зь Берасьця.** *Не спрабуйце ўвагнаць рэчаіснасьць у мэтафару. Няплённы шлях. Усе вашыя высновы патрабуюць пытальніка на канцы, бо ж і канфармізм — не абраза чалавецтву, а зусім неабходны складнік сужыцьця грамадзтва зь дзяржаваю; і ня толькі авечае або ваўчынае рэгулюе жыцьцё грамадзтва, а яшчэ і, калі хочаце, ластаўчынае і качынае, боскае і зямное, здаровае і хворае (так проста «дваіць» сьвет!); і «несупадзеньне ўласных поглядаў зь іншымі» — зусім не здабытак, а непаразуменьне — калі вы гаворыце пра погляды, а не пра інстынкт натоўпу. Праблема не ў заганнасьці тых ці іншых зьяваў, а ў стадыях, «дазіроўцы», этапах, на якіх тая самая зьява можа быць або карыснай, або шкоднай. Як той канфармізм або супадзеньне поглядаў.*

**Аляксандру Т. з Горадні.** *У Вас добры артыкул, але завялікі для нас. Мы друкуем матэрыялы памерам да 6—7 старонак, а Ваш — на 32 старонкі. Прапануйце яго ў нейкі часопіс — «Спадчыну», «Беларускі гістарычны часопіс» або ваш гарадзенскі «Гістарычны альманах».*

**Аляксандру зь Менску.** *Гэта здымак невядомага аўтара, перасланы ў рэдакцыю невядомым чытачом «НН». Мабыць, зроблены ў 50-х гадах.*

**Любові С. з Гомеля.** *Тое, што напісана ў Беларусі па-расейску, расейскія думкі й выказвае, і беларусы няздольныя пабачыць у ім нешта цікавае. Што да Дня мовы, дык гэтая праграма рэдакцыі складаецца з допісаў тых з нашых чытачоў, якія жывуць у расейскамоўным асяродзьдзі і апісваюць свой досьвед карыстаньня моваю ў гэтым атачэньні і тое, у якія сытуацыі яны пры гэтым трапляюць. Пішыце — надрукуем. Гэта наш супольны досьвед. Хто робіць газэту, пішацца ў выходных зьвестках. Сядзім мы ў дзьвюх рэдакцыях у Менску й Вільні. Што да ўсяго астатняга — чытайце наступныя нумары.*

**Сержуку З. зь Менску.** *Ну, Вы накруцілі ўсяго! І песьні, і танцы, і замуж, і сэкты. Трэба проста быць зацятым і жыць сваім жыцьцём. Мы прывыклі рабіць тое, што нам даспадобы, тое, што нам здаецца арганічным, карысным для Беларусі, тое, праз што мы разумнеем, мацнеем, багацеем. Мы, а не «народ» ці «моладзь». І праца гэтая прыносіць нам вялізнае задавальненьне і стае найлепшым прыкладам і ўзорам. А калі пачаць падладжвацца пад «моладзь» ці «народ», а пагатоў слухаць «сяброў»-расейцаў, рабіць тое, чаго, здаецца, нехта ад нас хоча, нічога ня будзе. Людзі чуюць фальш і прыстасаванства. Вось такая Вам заўвага (ці парада) з нашага асабістага досьведу. Друкаваць не надрукуем, бо напісана пра ўсё адразу, людзі заблытаюцца.*



Я прашу прабачэньня
ў сп.В.Станішэўскага.
*Андрэй Коржыч*

**Шукаем любую ніфармацыю**
(з кніг, часопісаў, газэт, Інтэрнэту) пра СБМ, БКА, БНС, БКС, НСПБ, НПБ, пра сяброў гэтых арганізацыяў. Жадаем пазнаёміцца з тымі, хто яшчэ жывы. Шукаем выданьні таго часу («Новы шлях», «Беларусь на варце» і інш.). Умовы Вашыя.
*Менск, 220028 а/с 164 Трусіла А.*

НАША НІВА **КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (не больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ____________________

____________________

____________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон ____________________

## прыватныя абвесткі

**вітаньні**

**Зьміцер Данскі!** Прывітаньне ад Мяне! Вялікі дзякуй за «Беларускую граматыку»! Так трымаць! Смутачак

**Віншую Коціка** даражэнькага з Днём народзінаў!!! Няхай шчасьціць! Жыве Беларусь! Кася

**Віншую ўсіх** беларусаў зь Вясной-2000! Жыве Беларусь!

**Віншую Юраську** з Днём нараджэньня! Я цябе люблю! Сонца табе! Стася

**Сьветлагорск!** Дзякуй табе за Натальлю Пакуш. Барысаў

**Футбольны пэрыёдык** «Offside» віншуе Натальлю Пакуш з Днём народзінаў! Зычыць усяго добрага, веснавога настрою й сьветлага каханьня

**Віншую сінія вокі** з Днём народзінаў. Каб твае вочы былі сінія, як неба, зь імі можна было б жыць, але яны, як мора, і я баюся ў іх згубіцца. Марыся

**Стасёнак, ты** самая лепшая. Віншую з нашым Годам і тваім Днём нараджэньня

**Віншую Наташаньку** Пакуш з Днём народзінаў! Зычу Божай ласкі ды міласьці. Кахаю цябе і чакаю. Алег

**значкі**

Набуду на Вашых умовах **значкі і прапагандысцкія наклейкі**. 231469, Дзятлаўскі раён, в.Курпяшы, д. 12, Зьміцер Чарнель

**ідэі**

**Tabie ž, Uschod**, spalkańnia dzień pryznaču, kali sumleńnia ú kajdanach nia úbacu siarod razłoh. Norvid

**Boritesia** — poborete. Taras Ševčenko

**My — russkije** — kakoj vostorg! Zavajoúnik Bielarusi Suvoraú

**Застаньцеся вернымі** Слову і мове сваёй краіны ня трэба прасіць дазволу, Бо Беларусь загіне!

**Мо да 14 сакавіка** разам з прэм'ерам зацьвердзім і новага прэзыдэнта? А, А.Г.?

**Запрашаю «сапраўднага»** беларуса А.Г. для ўдзелу ў акцыях Вясны-2000! Жыве Беларусь!

**Ліцьвін,** час гуртавацца! Будзьма разам!!! БЗЛМ. А/с 124, 246012, Гомель

**Будзь з намі,** будзь за нас! Разам супраць падмены паняцьцяў! БЗЛМ. А/с 124, 246012, Гомель

**«Яны за золата** прададуць усё тое, што нашы бацькі цанілі некалі даражэй за жыцьцё». Напрыклад, волю. Я.Баршчэўскі і Aleks

**Ліцьвіны, паспалітаўцы**, крывічы і іншыя. Змагайцеся лепей за Беларусь, а потым будзе ВКЛ, Рэч Паспалітая, Крывічы

**Уся праца чалавечая** — дзеля роту ягонага, а душа ягоная не насычаецца. Эклезіяст 6.7. На жаль...

**«Нашай Ніве»**, «Нашаму Слову» — «Дарагія мае... будзьце аднадумцамі і ў згодзе. Адна толькі згода можа нас захаваць, няхай жа яна будзе нашай зброяй». Мяцежны ксёндз Антон Мацкевіч, забіты расейскімі карнікамі

**My žyviem** nie ú krainie, a ú movie. Sioran

**Беларускі нацыяналіст** мае права змагацца і перамагаць. Арганізацыя беларускіх нацыяналістаў-рэвалюцыянэраў «Агмень», 220103, а/с 6

**Вызвольны камітэт** Літвы запрашае да супрацоўніцтва ўсе нацыянальна сьвядомыя ініцыятывы. Гэта наша зямля. paustan@europe.com, 2201136 а/с 197

**Сёньня ё каму** сказаць «не», стаць за Беларусь, Беларусаў, Беларускае — Нацыянальная Армія Беларусі — нацыянальны рух «Касінеры». Ян Беларус

**Bratam Polszczy:** hodzie hańbić ličvinskuju ideju. Ličviny — volnaja i mocnaja nacyja. Вызвольны камітэт Літвы

**Любіць Беларусь** недастаткова, трэба ратаваць! Выратуюць сапраўдныя беларусы, адродзяць і абароняць нацыянальную спадчыну — Ян Беларус'

**Няўжо сканалі ўжо Ліцьвіны?** Кантактуйце тыя, хто прагне жыць. Разам пераможам. Вызвольны Камітэт Літвы: paustan@europe.com. 220113, а/с 197. Т.: 2-137-990 (з 14-й да 16-й)

**Слава чачэнскаму народу**! Беларус

**Больш сьпіна ў нас** ня гнецца! Мы ідзем у апошні бой: Шмат маскальскіх сьлёз пральецца Над разбуранай Масквой! Шаміль Басаеў

**Беларуская форма** — мова, культура, прастора і час — нам Богам дадзеная для хрысьціянскага зьместу. Нацыянальная ідэя

**Хрысьціяне!** Беларусі вельмі балюча, пуста і страшна бяз Госпада. Будзьма ж еднымі!

**Ісус любіць цябе**! Пакайся і прыйдзі да яго. Ён мае плян добрага жыцьця для цябе!

**Ісус прыйшоў не** праведных, але грэшнікаў заклікаць да пакаяньня. Мф. 9:13

**кантакты**

**Дзятлаўскія нацыяналісты!** Пішыце! 231469, Дзятлаўскі раён, в.Курпяшы, д.12, Зьміцер

**Жыхарам дому № 9** па вул.Заходняй у Лунінцы: вярніце, калі ласка, скрадзеныя нумары «НН». Калі хочаце, магу аформіць Вам падпіску за свой кошт. Сяргей

**«Касінеры»**! Хопіць гуляцца — далучайцеся да «Белага Легіёну». Пэйджэр: 278-11-01, аб.4979

**Штовечар а 19-й** на Варвашэні, 8 Малады Фронт чакае цябе

**Паважаны пане Станішэўскі!** Бяру свае словы назад, Вы — сумленны чалавек. Андрэй Коржыч

**Андрусь зь Менску, Вы** сапраўдны беларускі патрыёт... ад Белай Русі. Дзе ж тое ВКЛ? Вызвольны камітэт Літвы

**Для Мікалая.** Мне хочацца працягнуць нашу размову. Чакаю Вашых прапановаў. Цімашэнка Іван

**Беларуская сацыял-дэмакратычная** партыя (Маладая грамада), пр.Скарыны 153-2-107, т.: 263-37-48, bsdp@infonet.by, belmsd@usa.net. Штонядзелі а 18-й. Будзьма разам!

**Пазнаёмлюся з актыўным мужчынам** бяз комплексаў і забабонаў. А/с 86, Менск, 220141, Іван

**кнігі, пэрыёдыкі**

**Падпішыся на «Навінкі»,** ці застрэляць сабаку й Граждана. Падпісны індэкс 63439

**Прадам «Беларускія** народныя казкі», 2-е выд, дап. (Склад. Г.Барташэвіч, К.Кабашнікаў) — Менск: Навука і тэхніка, 1986. —512 с. Вул. Цімашэнкі, 14-2-265, т.: 258-43-54

**Газэта «Верас»** — інфармацыйны дайджэст на 8 старонках. Замаўляйце: Віцебск, 210032, а/с 29-А; капэрта, шукаем аўтараў. gazeta@veras.fzs.com

**Наш прынцып:** прасьцей ставіцца да самых сябе й да навакольных. «Радавая Беларусь». Чытайце нумар 1, 2000 (лютаўскі нумар). Ад Вас — капэрта са зв/а+50 р. Адрас: а/с 469. 220030, Менск

**Вы нам** — капэрту і 30 р. Мы вам нумар «Нашай Нівы ісьціннай». А/с 169. 220030, Менск

**музыка, відэа**

**Новая кропка** продажу беларускамоўнага відэа: 2-гі паверх унівэрмагу «Беларусь» (ст.м. «Партызанская»)

**Відэафільмы «Адважнае сэрца»**, «Ісус», «Пяты элемэнт». Продаж, запіс. Гуртам (ад 9) — зьніжка! 220107, а/с 150. Т.: 213-43-52, 240-78-01

**Відэакасэта «Звычайны прэзыдэнт** / Менская вясна-96». 220107, Менск, а/с 150

**Калі Вы** жадаеце атрымаць **каталёг беларускамоўнага відэа**, дашліце капэрту са зваротным адрасам. 220107, Менск, а/с 150

**падарую**

**Падарую ўнікальны рарытэт** — стол-крэсла дзіцячае, за якім вырасла 4 маленькіх беларусы. Т.: 260-25-73, Альця, Зьмітро

**праца**

**Час ад часу** патрэбныя перакладчыкі на/з ангельскай, якія маюць PC і электронную пошту. Збольшага на расейскую мову, але лепей, каб беларускую таксама ведалі.<bely@infonet.by>

**Сучасная ангельская мова** — урокі, кансультацыі, пераклады. Дыплём бакаляўра амэрыканскага ўнівэрсытэту. Т.: 269-01-02

**Гісторыя Беларусі**: пісьмовыя працы і рэпэтытарства. Т.: 214-85-82

**Раблю пераклады зь нямецкай і на нямецкую** мовы, даю ўрокі нямецкай мовы (нядорага). Т.: 283-54-25, Вольга

**Нацыяналіст шукае дадатковага прыробку** ў вольны час. Т.: 274-86-43

**Дапамагу распачаць уласную** справу ў хаце (не распаўсюджваньне). Могуць усе! Прыбытак ад 200 у.а. Ад Вас: капэрта са зв/а+купон б/а: 220089, Менск-89, а/с 122

**ГАЗЭТА ПРЫМАЕ ТАКСАМА АБВЕСТКІ БОЛЬШЫМ ШРЫФТАМ ЗА НЕВЯЛІКУЮ ПЛАТУ**

- *да 20 словаў – **78** руб.,*
- *звыш 20 словаў – **96** руб.;*
- *па-мастацку аформленая аб'ява – **45** руб. за 1 кв. см;*
- *па-мастацку аформленая аб'ява памерам больш за 24 кв. см з улікам кошту арыгінал-макету – ад **63** руб. за 1 кв. см.*

*За аб'яву пра сямейныя падзеі – зьніжка.*

Абвесткі палітычнага характару мусяць аплочвацца паводле рэклямных расцэнкаў для камэрцыйных аб'яваў

Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на наступны разьліковы рахунак: *Рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010 Ленінскае аддз. ААТ «Белбізнэсбанку» г.Менску, код 763.*
На зваротным баку блянку паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна і чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і АБАВЯЗКОВА ДАДАЕЦЦА СКАЗ: «ЗА РЭКЛЯМНЫЯ ПАСЛУГІ».

*Рэдакцыя*

Ян Беларус
Касіянеры
Салігорск

«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Сакратар-рэфэрэнт Аляксандра Макавік. Дызайн-макет Лявон Раманчык. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук.
**Адрас для допісаў: 220050, Менск, а/с 537.**
**Tel/fax: (017) 227-78-92. E-mail: niva@user.unibel.by Http://members.xoom.com/Nasa_Niva.**
© **НАША НІВА**. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 3742. 6 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк 22:16, 27.02.2000. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 998. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны.
Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты «Известия», д. 8, кв. 173.
Дыспэтчарска-рэдакцыйны адрас. Менск, Бабруйская, 19/36